11 красавіка 2020 | № 14 (673)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144





**Вярнуць Астану**

Стар. 8

**4** **МАЛАКО ЗА ШКОДНАСЦЬ І СПРАВА ПРЫНЦЫПУ**

Зваршчык звольніўся з будаўнічага трэсту — ды так і не пабачыў прафілактычнага харчавання, якое яму належала паводле закону



**5** **«РУСКІ МІР» БЕЛАРУСКАГА МІЛІЦЫЯНТА**

Упершыню ў базу даных «Чысцец» Цэнтра даследавання прыкметаў злачынстваў «Міратворац» занесенае імя дзейнага афіцэра міліцыі Рэспублікі Беларусь

**6–7** **«БАЮСЯ БОГА І МАТЫЛЬКОЎ!»**

Мастачка, вынаходніца буцінанкі, пісьменніца-казачніца Надзя Бука пры сустрэчы адразу нагадала мне чароўнага персанажа



**10** **ЗАЛЕЗЦІ Ў ГАЛАВУ СТАЛІНА**

З 1924 года ў Мінску дзейнічала Генконсульства Польшчы. Там, пад прыкрыццём дыпламатаў, працавала і польская выведка

# Усё будзе, як павінна быць...



Аксана КОЛБ

**Усё, што выбудоўвалася гадамі, дзесяцігоддзямі і нават стагоддзямі, за некалькі тыдняў пачало руйнавацца.**



Маленькая пачвара з каронай зрабіла тое, што не ўдавалася здзейсніць шматлікім лідарам і грамадствам. Яна нібыта знайшла тую загадкавую кропку руйнавання нашага загартаванага сусвету, які мы збудавалі вакол сябе. Сусвет аказаўся шкляным. Ён разлятаецца на маленькія кавалачкі ды змятае аскепкамі ўсё, што раней нам падавалася важным і каштоўным. Тое, што нядаўна было звычайным, цяпер становіцца прывілеем, тое, што раней падавалася важным, адходзіць на другі план.

Зразумела, што каронавірус ужо запусціў перазагрузку соцыуму, і праз пэўны час мы ўбачым яго новую версію. Хацелася б толькі, каб у выніку яна стала больш дасканалай і асэнсаванай. Хацелася б спадзявацца, што вытрывае лепшае. Але... Механізм запушчаны — і пакуль працэс не завершаны, мы бачым праяўленні як самага добрага, што ёсць у нас, так і самага горшага.

Мы па-іншаму сталі разумець і інакш ставіцца да такіх яшчэ нядаўна звыклых рэчаў, як сустрэча з сябрамі, паход у кавярню, кіно або тэатр, паездка да бацькоў ці нават вітанні з суседзямі. Як, аказваецца, важна, калі ты свабодна — не баючыся захварэць ці заразіць, без пагрозы штрафу ці нейкіх іншых абмежаванняў — можаш рабіць такія простыя рэчы. Высвятляецца, што сацыяльная камунікацыя вельмі важная для нашага жыцця і псіхічнага здароўя.

Выглядае, што сядзець дома і не хадзіць на працу зусім не так весела, як камусьці яшчэ нядаўна падавалася. Тыднямі не тэлефанаваць састарэлым бацькам ці памятаць даўнюю крыўду на былога сябра не так важна, як ведаць, што твае бацькі ці сябар жывыя і здаровыя. Не істотна, колькі будзе каштаваць шэнгенская віза, дый ці будзе яна наогул. Важна, каб межы былі адкрытыя, і ты мог сам выбіраць, куды табе ехаць і ці ехаць увогуле.

Толькі задумайцеся: дзесяцігоддзямі краіны працавалі над тым, каб адмовіцца ад межаў, падарожнічаць свабодна і быць грамадзянамі адной прасторы. А вірус узяў і без праблем зруйнаваў гэту працу. Людзі зараз закрытыя ў межах сваіх краін, а некаторыя — у межах сваіх кватэр, і цяпер застаецца толькі марыць, каб трапіць не тое, што ў адпачынак ці на уік-энд, а нават да хворага сваяка ў суседнюю краіну.

Стагоддзямі людзі крок за крокам ішлі да дэмакратыі, каб самім вызначаць, што рабіць і як жыць, а вірус узяў і ўключыў рэжым «урад, абмяжуй мае правы». І вось мы ўжо чуем, што пытанні нацыянальнай бяспекі могуць быць важнейшыя за правы чалавека. І калі для дэмакратычных краін гэта яшчэ можна прыняць і зразумець (там кіраўнікоў выбіраюць, ім давяраюць, дый кіраўнікі там збольшага ўцямныя), то для такіх дзяржаў, як Беларусь, заклікі да жорсткіх абмежаванняў — асабліва з вуснаў палітычнай апазіцыі — выглядаюць, мякка кажучы, дзіўна.

Ні я, ні большасць грамадзян Беларусі гэту ўладу не выбіралі, дык чаму тады столькі людзей хоча, каб менавіта гэта ўлада вызначала, што нам рабіць і ў якім рэжыме? Ці нам самім не хапае ведаў і адказнасці? А можа, нам проста не хочацца прымаць рашэнні, у правільнасці якіх мы не ўпэўненыя?

І пакуль адны крыкам крычаць пра каранцін, другія праводзяць рэпетыцыі нікому не патрэбнага параду, трэція збіраюць грошы і рэчы, каб дапамагаць тым, каму гэта цяпер трэба, складаюць спісы, размяркоўваць абавязкі, робяць тое, што і павінен рабіць чалавек, якому жывёльны страх за сваё жыццё не засціле вочы.

Дзесяцігоддзямі эколагі розных краін спрабавалі зменшыць негатыўны ўплыў чалавека на прыроду. А цяпер маленькая пачварка, што нарадзілася ў яе нетрах, раптам спыніла шматлікія вытворчасці, якія забруджвалі паветра. А Кітай нарэшце ўвёў хаця б часовую забарону на развядзенне і ўжыванне ў ежу дзікіх жывёл. Былі закрытыя тысячы фермаў, дзе гадавалі дзікабразаў, віверагў і чарапах.

Кажуць, вірус не шкадуе багатых людзей ды палітыкаў і дае ім зразумець, што ад хваробы нельга збегчы на ўласным самалёце і не купіць здароўе за грошы. Гэта праўда. Аднак праўда і тое, што, дзякуючы шмат каму з багатых людзей, мы маем фонды падтрымкі медыкаў ды іншых уразлівых катэгорый і, магчыма, дзякуючы ім зможам перажыць крызіс пасля пандэміі.

Гэтая хвароба шмат што забірае, але і дае магчымасць зразумець, што ёсць галоўным у нашым жыцці. Цяпер мы ведаем, як важна не адкладаць сустрэчы з блізкімі з-за рознай драбязы. Хутка зразумеем, што істотна не тое, якая ў цябе праца, а тое, што яна наогул ёсць. Ужо, напэўна, многія ўцямілі, што трэба з дзяцінства берагчы здароўе і клапаціцца пра імунітэт. А яшчэ — як важна ў любы момант пры неабходнасці мець магчымасць звярнуцца да доктара і атрымаць дапамогу. Хутка таксама, відаць, усвядомім, што да прыроды і жывёльнага свету трэба ставіцца паважліва.

Вось толькі ці зразумеем, што ўсё гэта тычыцца і права выбару. Выбару тых, з кім хочацца камунікаваць, чым займацца, дзе і як жыць, куды падарожнічаць, каму давяраць свой лёс і лёс сваёй краіны. Выбару таго, нарэшце, як жыць і як паміраць. А яшчэ гэтая пачварка, такі маленечкі каронавірус, нарэшце прадэманстраваў, наколькі крохкі і няпэўны збудаваны намі свет, наколькі кароткае і часам ілюзорнае наша жыццё ды як мала мы значым у маштабах сусвету.

Таму, як казалі разумныя людзі: «Усё будзе, як павінна быць, нават калі будзе зусім не так». Здароўя нам усім і добрых часоў!

# Які каранцін нас выратуе?

Уладзімір МАЦКЕВІЧ

**Татальны каранцін можа моцна знізіць рызыку заражэння і распаўсюджвання віруса. Але татальны каранцін немагчымы, гэта толькі ў кіно бывае, але і там сюжэт круціцца вакол тых, хто вымушаны ўступаць у кантакты.**

Частковы каранцін не можа абмежаваць распаўсюджванне віруса. Эфектыўнасць частковага каранціну эмпірыкай не даказаная, а тэарэтычна — тым больш.

Частковы каранцін-паліятыў спароджаны стомленым сярэднім класам і ціскам ірацыянальнага папулізму. За бортам частковага каранціну застаецца амаль палова насельніцтва, для якой зачыніцца на каранцін — недазвальняльная раскоша.

З трох відаў каранціну: татальны, частковы, індывідуальны — першы немагчымы, другі неразумны, бескарысны, а пры некаторых умовах нават шкодны, трэці разважны, і (пры выкананні ўсіх правілаў і нормаў) можа быць эфектыўнай мерай абароны.

Пра татальны каранцін можна балбатаць, колькі заўгодна, пісаць антыўтопіі, здымаць кіно. На індывідуальны каранцін трэба сыходзіць ціха, без пафасу і распаўсюджвання панічных настрояў, з разуменнем, што ты не ратуеш свет, а толькі самога сябе.

А вось частковы каранцін — вымушаная мера, кошт яго велізарны, адказнасць цяжкая. Частковы каранцін можна ўводзіць разумна, а можна — бяздумна, ідучы насустрач папулісцкім настроям.

У выратаванні самога сябе няма нічога эгаістычнага і заганнага — гэта нармальна і натуральна. Толькі пантоў пры гэтым не трэба. Ад таго, што выратуешся, ты не станеш абраным. І тое, што ты можаш сабе дазволіць ізаляцыю, — не падстава патрабаваць ізаляцыі ад усіх і кожнага. А тое, што ты можаш працаваць аддалена і атрымліваць зарплату, не дае табе права павучаць тых, у каго іншая праца, іншыя ўмовы і абставіны.

У тым, што ты асабіста можаш ізалявацца, аддалена працаваць, не галадаць пры гэтым і мець камфортнае асяроддзе ў ізаляцыі, няма тваёй асабістай заслугі — усе гэта ўмовы, створаныя цывілізацыяй і НТП.

Цывілізацыя навучылася скараць прыроду, але не навучылася з ёй ладзіць. Гэту пандэмію чалавецтва перажыве і ўправу на COVID-19 знойдзе, аднак праблема, як нам ладзіць з прыродай, застанецца.

Зрэшты, і праблема, як нам ладзіць з самімі сабой, як арганізоўваць грамадства, як разумець і чуць адзін аднаго, стане толькі вастрэйшай.

# Пра тое, як можна перахварэць на COVID-19 і нават не заўважыць

Аляксандра ДЫНЬКО, РАДЫЁ СВАБОДА

**«Я з тых людзей, якія не лічаць, што гэты вірус такі ўжо страшны», — кажа пра сябе мінчанка Вольга. Яна ў інфекцыйным шпіталі з каронавірусам. Але, як і пераважная большасць захварэлых, мае невыразныя сімптомы ды кажа, што не заўважыла б хваробы, калі б не станоўчы тэст.**

Вольга вырашыла падзяліцца з «Радыё Свабода» ўласнай гісторыяй пра каронавірус.

Вольга кажа, што людзям не хапае разважлівай інфармацыі пра хваробу. У пэўны момант яна нават зрабіла жывы эфір, каб расказаць пра свой выпадак і пераканаць, што большасць хварэе на каронавірус у лёгкай форме. Кажа, што пасля ёй падзякавала шмат людзей, бо яе расповед іх супакоіў.

«Я сама шмат чытаю. І ў асноўным пішуць пра новыя выпадкі, пнеўманіі, смерць. Гэта вельмі прыгнятае. Людзі мне пішуць, што ад панікі ўжо не спяць начамі, — распавядае Вольга. — А з другога боку, уключаеш тэлевізар — і там у існаванне вірусу і тое, што ён небяспечны, не вераць. Атрымліваецца, што мы не маем сярэдзіны. Але статыстыка сведчыць, што 80 працэнтаў перахварэюць без сімптомаў альбо ў лёгкай форме. Гэта так, як хварэю я. І нас такіх цяпер у інфекцыйнай клініцы шмат. Хаця я думаю, што сітуацыя будзе пагаршацца, але пакуль ёсць магчымасць патрымаць тут такіх, як я».

Вольга прыляцела з Парыжа 15 сакавіка. Не маючы аніякіх сімптомаў, але ведаючы пра вірус, яна на ўласнае жаданне здала тэст у раённай паліклініцы.

«Роўна праз 23 гадзіны мне пазванілі і сказалі, што тэст у мяне станоўчы, а яшчэ праз тры гадзіны мяне забралі ў «капсуле», — дзеліцца жанчына. Яе сям'ю — мужа і дваіх маленькіх дзяцей — адвезлі ў дзіцячую інфекцыйную лякарню.

Вольга знаходзіцца ў дарослым інфекцыйным шпіталі ў ізаляваным боксе.

«Калі б у мяне не знайшлі станоўчага тэсту, магчыма, што я б на гэтыя сімптомы не звярнула ўвагі, — расказвае яна пра свой стан. — У дзень тэсту ўвечары я адчула стому, хоць нікуды не хадзіла. На наступны дзень я прачнулася з галаўным болем, што мне не ўласціва зусім. Але зноў падумала, што "з дарогі". У шпіталі на другі дзень у мяне тэмпература была 37,1, і гэта быў адзіны раз, калі яна была падвышаная. Вочы балелі, трохі пяршыла ў горле».

Самым незвычайным сімптомам стала абсалютная страта нюху. Вольга гэта адчула на пяты дзень пасля здачы тэсту.

«Я заўважыла гэта на непрыемным паху — у нас ёсць кварцавы пакой, праз які нам перадаюць ежу. І я тады зайшла па перадачу і зразумела, што я ўжо не адчуваю пах кварцу, — апісвае яна. — Гэта трохі дзіўна, робіцца менш смачнай ежа. Ты не разумееш, катлета з мяса ці з рыбы. На 3–4 дзень пахі сталі вяртацца, але патроху. Каб адчуць пах кавы, трэба было ледзьве не ў кубак залезці. Але пасля ўсё вярнулася цалкам».

У шпіталі ў Вольгі ўзялі ўжо 7 тэстаў. Цяпер яна чакае вынік апошняга. Калі ён будзе адмоўным, то яшчэ адзін кантрольны тэст — і жанчына паедзе дахаты.

«Я нікога не заразіла, — кажа яна. — Мая сям'я здала два тэсты, яны ўсе былі адмоўныя. Як кантакты першага ўзроўню забралі маіх сяброваў, з якімі я лятала ў Парыж. Яны таксама не заразіліся. І таксама забралі жанчыну, якая брала ў мяне мазок у паліклініцы (у паліклініку я, дарэчы, хадзіла ў масцы). У яе таксама адмоўны вынік».

Вольга лічыць, што абавязкова трэба расказваць людзям пра сацыяльнае дыстанцыяванне і прафілактычныя заходы.

«Мы адказныя за сваё жыццё, жыццё і здароўе сваіх блізкіх і не толькі іх, — кажа жанчына. — Я заклікаю да сацыяльнага дыстанцыявання. Не заклікаю да каранціну, бо гэта быў бы ўдар для нашай эканомікі. Але выступаць да сацыяльнае дыстанцыяванне трэба максімальна».

Яна таксама агітуе за нашэнне масак у грамадскіх месцах. Нагадвае, што, калі б не зрабіла тэсту, то нават не ведала б, што мае дыягназ.

«І такіх людзей шмат, маска можа дапамагчы ў такіх выпадках, бо такія людзі заразныя», — перакананая жанчына.

Вольга таксама мяркуе, што людзей з такім цячэннем хваробы, як у яе, можна пакідаць дома ў самаізаляцыі.

«Вы бачыце, колькі новых выпадкаў за суткі. І, на жаль, усе гэтыя новыя выпадкі, гэта ўжо не такія, як я, а больш сур'ёзныя, — кажа яна. — Сёння магчымасць ізаляваць такіх, як я, ёсць. Я амаль упэўненая, што нас трымаюць так доўга, каб даведацца, колькі РНК-вірус будзе выдзяляцца. Калі яны зразумеюць, што гэта, напрыклад, 3 тыдні, то ў будучыні будуць адпраўляць дадому, на хатні каранцін».

З красавіка Міністэрства аховы здароўя абвясціла пра перагляд падыходаў да шпіталізацыі кантактаў першага і другога ўзроўняў. Паводле іх апошніх назіранняў, у кантактаў першага ўзроўню хвароба праяўляецца на 2–5 дзень. Таму прынята рашэнне выконваць для іх тэст на 6–7 дзень. Калі вынік адмоўны, такога чалавека будуць адпускаць дахаты на 14-дзённую самаізаляцыю. Кантакты другога ўзроўню будуць шпіталізавацца пры развіцці сімптомаў рэспіраторнага захворвання.

# Мінчанку аштрафавалі за ўдзел у мітынгу, у якім яна заклікала не ўдзельнічаць

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Галіна Лагацкая 20 снежня мінулага года прыйшла на акцыю супраць інтэграцыі з Расіяй, каб заклікаць удзельнікаў не наведваць такія малакалькасныя сходы. А потым даведалася, што ёй завочна прысудзілі 30 базавых велічынь штрафу за... удзел у несанкцыянаваным мітынгу.**

— Раней мяне ўвесь час апавяшчалі — тэлефанавалі, дасылалі смс. А тут упершыню я не ведала, што на мяне склалі пратакол! — абураецца жанчына.

Па яе словах, яна вырашыла не ўдзельнічаць у мітынгах з малой колькасцю людзей, бо яны «нічога не даюць». І 20 снежня пайшла на плошчу, каб сказаць пра гэта людзям, якія сабраліся, і міліцыі. Зрабіўшы тое, што збіралася, Галіна папярэдзіла міліцыю, што не ўдзельнічае ў сходзе, і нават зняла гэта на відэа, ды сышла. Больш за тое, напярэдадні яна пазваніла знаёмай і сказала ёй па тэлефоне, што больш не будзе ўдзельнічаць у акцыях (відэа і запіс размовы Галіна Лагацкая прадставіла рэдакцыі НЧ).

— Я магла б даказаць гэта ў судзе, але мяне не выклікалі ў суд, — рэзюмуе жанчына.

Пра тое, што яе судзілі, Галіна Лагацкая даведалася ад актывіста Леаніда Кулакова. А потым прачытала ў інтэрнэце, што ёй прысудзілі 810 рублёў штрафу.

Жанчына схадзіла на прыём да старшыні Першамайскага суда Мінска, ёй паабяцалі разабрацца, але ў выніку далі адпіску. У прыёмнай Галіна задала пытанне, чаму яе не апавясцілі належным чынам і, не дачакаўшыся, правялі пасяджэнне. На што ёй адказалі: «Вы ж усё роўна не ходзіце».

Галіна перакананая, што Мінгарсуд адменіць рашэнне Першамайскага суда, але для таго, каб падаць скаргу, ёй неабходна заплаціць 54 рублі дзяржпошліны. Паколькі жанчына часова беспрацоўная, яна не можа выдаткаваць гэтыя грошы. Больш за тое, раней яе на 50 працэнтаў, а то і цалкам вызвалялі ад выплаты пошліны пры падачы скаргі, паколькі яна не мае крыніц даходу. Але гэтым разам суддзя Мінгарсуда, разгледзеўшы просьбу Галіны Лагацкай і вывучыўшы даведкі аб беспрацоўі ды стане здароўя, адмовіў.

— Праз памылку я не змагла даказаць сваю невінаватасць у судзе, а цяпер павінна яшчэ заплаціць 50 рублёў, якія па заканадаўстве не вяртаюцца! Я беспрацоўная, мне 60 гадоў, у мяне праблемы са здароўем, — бядуе жанчына.

Цяпер яна мае намер звярнуцца ў адміністрацыю раёна, якая таксама можа вызваліць ад аплаты дзяржпошліны, і, магчыма, трапіць на прыём да старшыні Вярхоўнага Суда.

У 1990-х гадах Галіна засталася адна з двума дзецьмі, каб выжыць, часам працавала без дакументаў. Потым спрабавала ўладкавацца на дзяржаўную працу, але па ўзросце і стане здароўя — у жанчыны астма — яе амаль нікуды не бралі. Цяпер Галіна мае спадзеў атрымаць пасаду старшыні кааператыву ў доме, дзе жыве. Ужо чатыры гады яна дамагаецца правядзення справядлівых выбараў, але і на гэтым фронце амаль не вылазіць з судовых працэсаў.

— На мне вісяць шалёныя штрафы, у мяне забралі ўсю маёмасць. Мне помсціць адзін чалавек за тое, што я не дазваляла карыстацца калясачнымі. Ён бясплатна імі карыстаўся, а я вярнула іх народу, сталі здаваць у арэнду і ўдалося зрабіць у пад'ездах рамонт, — тлумачыць Галіна.

Пакуль Галіну Лагацкую матэрыяльна падтрымліваюць дзеці і 94-гадовы бацька — ветэран вайны. А «дзяржава для народа», здаецца, наадварот, гатовая забраць апошнюю капейчыну.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Думай пра лепшае, рыхтуйся да горшага

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Кажуць, у Расіі дзве бяды: дурні і дарогі. У нас жа цяпер два клопаты — нафта і каронавірус. Па абодвум Аляксандр Рыгоравіч на тыдні правёў нарады. І калі з нафтай усё больш-менш зразумела, то з вірусам ніякага разумення не атрымліваецца.**

Найперш, варта зазначыць, што краіны АПЕК+ усё ж дамовіліся пра зніжэнне здабычы сыравіны. У выніку ф'ючарсныя цэны на нафту пайшлі ўверх, і складаюць ужо каля 34 доляраў за барэль нафты маркі Brent. Расійская Urals каштуе танней, і мы, гледзячы па ўсім, паспелі ўскочыць у самы прывабны цэнавы калідор. Прынамсі, раней прэм'ер Сяргей Румас казаў, што Беларусь у красавіку будзе купляць нафту па цане ў 4 долары за барэль.

Пастаўкі ў красавіку складуць 2 мільёны тон толькі ад расійскіх пастаўшчыкоў. Аднак на нарадзе Лукашэнка запатрабаваў стварыць сур'ёзны запас нафты і нафтапрадуктаў. «На непрадбачаныя выпадкі неабходна ствараць сур'ёзны запас сыравіны (як нафты, так і паліва), які дазволіць не парушаць працу галін і не перарываць тэхналагічныя працэсы», — сказаў ён. Пры гэтым, як перадае прэс-служба кіраўніка краіны, ён таксама «паставіў пытанне аб наяўнасці сховішчаў для нафты і нафтапрадуктаў і нарошчванні іх магутнасці».

Дзіўна, канешне: запатрабаваць стварыць запас нафты, і толькі потым пацікавіцца тым, куды мы будзем яе згружаць. У вёдрах насіць?

Між тым, аналітыкі расійскага «Ашчадбанка» лічаць, што казаць пра поўнае ўрэгуляванне нафтавых спрэчак паміж Беларуссю і Расіяй яшчэ рана. Яны звяртаюць увагу, што на бягучы момант дамоўленасці распаўсюджваюцца толькі на месяц. Не вырашана і пытанне пра наяўнасць і памер прэміі да цаны нафты, якая пастаўляецца ў Беларусь без пошліны.

Атрыманне нафты і выхад НПЗ на поўную магутнасць у «Ашчадбанку» лічаць крытычна важнай умовай для зніжэння цяжару эканамічных праблем Сінявокай, і зазначаюць, што адмова ад жорсткіх мер барацьбы з каронавіруснай інфекцыяй абумоўленая менавіта неспрыяльным эканамічным становішчам краіны. «Цалкам верагодна, што падобная стратэгія паменшыць глыбіню рэцэсіі ў гэтым годзе, але дакладна не дазволіць яе пазбегнуць», — лічаць у «Ашчадбанку». Да таго ж хуткі рост колькасці хворых усё ж можа падштурхнуць улады на ўвядзенне жорсткіх мер з адпаведнымі наступствамі для эканомікі.

З каронавірусам пытанне ўвогуле больш складанае. Падавалася б, рэцэпт даволі простае: казаць праўду, аператыўна і сумленна паведамляць лічбы захварэлых, пазначаць нядобранадзейныя рэгіёны, весці няспынную тлумачальную працу, як пазбегнуць захворвання. Замест гэтага на тыдні мы пачулі эмацыйныя выказванні кіраўніка краіны наконт «каронапсіхозу», а таксама даведаліся, што ад віруса ратуюць казачкі, што Лукашэнка асабіста гатовы пайсці лячыць людзей і што перамагчы хваробу мы павінны «прыгожа».

«Кожны павінен займацца сваёй справай. Без панікі, спакойна і прыгожа. Мы павінны з вамі перамагчы прыгожа, мы павінны выратаваць людзей годна. Чалавек не павінен думаць, што ён туды трапіў з гэтым вірусам, ён смяротнік. Не. Усіх выратуем, каго толькі можна. І мы для гэтага павінны зрабіць усё», — заявіў Лукашэнка.

Пакуль гэта «ўсё» выліваецца ў дзіўныя рэчы. Мы чакалі, што ўрад распрацуе захады для падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу, увядзе падатковыя і крэдытныя канікулы — каб людзі, што працуюць аддалена альбо ў самаізаляцыі, не страцілі ў грошах, каб ім было за што карміць сем'і. Замест гэтага атрымалі звыклы кантроль над цэнамі і таварамі.

**Калі вытворцам усталяваць «гранічны нарматыў рэнтабельнасці», то вытворчасць тых самых масак можа аказацца нявыгаднай, і маскі знікнуць. Калі «лімітавая надбаўка імпарцёра» будзе дзейнічаць, можа ўзнікнуць недахоп дэзынфікуючых сродкаў: бо іх нявыгадна завазіць**

Лукашэнка даручыў Камітэту дзяржкантролю паглядзець на цэны, і кіраўнік КДК Леанід Анфімаў адразу ж заявіў: неабгрунтаванае павышэнне цэн на тавары, асабліва на тыя, якія карыстаюцца павышаным попытам, можа абярнуцца для бізнесу крымінальнай справай. «Калі дзесьці ў рознічных гандлёвых сетках пачнецца вольніца з цэнамі, асабліва на тавары, якія карыстаюцца павышаным попытам у гэты перыяд, рэакцыя будзе аж да ўзбуджэння крымінальных спраў», — сказаў ён.

Адначасова ўзрушылася Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. МАРГ увяло дзяржрэгуляванне коштаў на маскі і дэзінфікуючыя рэчывы. Згодна з дакументамі, гранічны нарматыў рэнтабельнасці на гэтыя тавары ўстанаўліваецца ў памеры 10%. Таксама ўсталёўваецца лімітавая максімальная надбаўка імпарцёра на маскі і дэзынфікуючыя сродкі ў памеры 10% і гранічная максімальная гандлёвая надбаўка (з улікам аптовай надбаўкі) да адпускной цаны вытворцы (імпарцёра) — 15%.

На вялікі жаль, такія захады не могуць прывесці ні да чаго, апроч узнікнення дэфіцыту. Таму што асноўны эканамічны закон — закон попыту і прапановы — ніхто не адмяняе. Калі вытворцам усталяваць «гранічны нарматыў рэнтабельнасці», то вытворчасць тых самых масак можа аказацца нявыгаднай і... маскі проста перастануць вырабляць. Калі «лімітавая максімальная надбаўка імпарцёра» будзе дзейнічаць, можа ўзнікнуць недахоп дэзынфікуючых сродкаў: бо ў іх канцавы кошт укладаецца не толькі вытворчасць, але і транспарціроўка, размытненне, сертыфікацыя і шмат што яшчэ.

Больш за тое, такія захады спрыяюць ажыятажнаму попыту. Адна справа — ведаць, што ты заўсёды можаш набыць тую ж маску, хай і нятанна. Іншая справа — калі ты не ведаеш, ці будуць гэтыя маскі ў продажы, бо МАРГ абмежаваў цэны на іх, што можа зрабіць вытворчасць нерэнтабельнай. А раптам «лавачка прыкрыецца»?

Таму захады МАРГ і КДК яшчэ больш распальваюць той самы «каронапсіхоз», пра які грэбліва выказваецца Аляксандр Рыгоравіч.

З той жа серыі — пастанова Саўміна №184, якой забараняецца павышаць цэны (тарыфы) больш чым на 0,5% штомесяц. Прычым, забараняецца ўсім — юрыдычным асобам усіх формаў уласнасці і індывідуальным прадпрымальнікам-вытворцам, імпарцёрам, аптавікам, а таксама тым, хто аказвае любыя віды паслуг. Горш за тое: як напісана ў пастанове Саўміна, павышаць цэны больш дапушчальнага ў сувязі з ростам кантрактнай цаны, курсавых ваганняў, расходаў і па іншых прычынах з гэтага часу дазваляецца «толькі пасля ўзгаднення з камісіяй па пытаннях дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння пры Савеце міністраў».

У такім разе, варта долару зноў узляцець — і з паліцаў крамаў адразу ж знікне імпарт. Такім чынам і ўтвараецца дэфіцыт.

Можа, нам рыхтавацца да ўзнікнення «чорных рынкаў»?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Лізавета Пракопчык




**Ініцыятарку студэнцкай забастоўкі і акцыі «Ха-ха, я тут памру» адлічылі з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.**

Лізавета Пракопчык вучылася на 4-м курсе. У сакавіку дзяўчына актыўна заклікала студэнтаў да самаізаляцыі, хаця каранціну адміністрацыя ВНУ не ўводзіла. Афіцыйная прычына адлічэння — за пропускі заняткаў. Пракопчык кажа, што з юрыдычнага боку адлічэнне законнае, аднак лічыць яго палітычна матываваным. За час вучобы яна не мела пераздачаў, апроч фізкультуры: «На факультэце ёсць людзі, у якіх па 150 гадзін пропускаў у месяцы, і іх не адлічаюць. У мяне за сакавік было 60–65 гадзін пропускаў, і мяне адлічылі».

«Я буду абскарджваць гэтае рашэнне, бо ва ўнутраным дакуменце ўніверсітэта напісана, што ў працэсе навучання студэнты маюць права на захаванне свайго жыцця і здароўя. Я лічу, што самакаранцін — гэта і ёсць захаванне майго жыцця і здароўя», — зазначае ўжо былая студэнтка.

Адміністрацыя ВНУ адмаўляе палітычныя падставы адлічэння і заўважае, што на першым курсе Пракопчык адбывала 13 сутак адміністрацыйнага арышту за грамадскую дзейнасць — і тады яе ніхто не выключаў. «У нас студэнты розных палітычных поглядаў і выказваюць свае пазіцыі па-рознаму. Тыя, хто вучыцца, яны і працягваюць вучыцца», — сказаў прарэктар па выхаваўчай працы МДЛУ Уладзімір Пашкевіч Радыё «Свабода».

## Тадэвуш Кандрусевіч



**Арцыбіскуп Каталіцкай царквы заклікаў вернікаў святкаваць Вялікдзень дома і звярнуў увагу на недахоп інфармацыі з боку адказных дзяржаўных структур падчас эпідэміі.**

Падставай для звароту стала тое, што шмат вернікаў на Вербніцу ў час эпідэміі прыйшлі да Чырвонага касцёла, на што звярнулі ўвагу СМІ. «Я не хачу ўдавацца ў рашэнні дзяржаўных органаў, але калі прадстаўнікі ўсіх рэлігій, усіх канфесій (на малітве ў Чырвоным касцёле) збіраюцца разам, трэба прыйсці і сказаць, у нас шмат пытанняў... Я не эксперт у гэтым пытанні, я не ведаю, ці нясе гэтая вада заражэнне, ці не. Вам трэба будзе асвяціць велікодную ежу ў суботу — я таксама не ведаю. Я спытаў Міністэрства аховы здароўя: "Што нам рабіць? Чаму вы нічога не кажаце?!" Я праз вас, праз СМІ, хачу сустрэцца з кімсьці адказным, каб атрымаць канкрэтныя звесткі», — напісаў арцыбіскуп.

Па яго словах, царква шмат робіць для прадухілення інфекцыі. «З аднаго боку, добра, што людзі ідуць у касцёл і цягнуцца да Бога. Але з другога — людзі чытаюць інфармацыю ў інтэрнэце. Я не магу загадаць не ісці ў касцёл, але я заклікаю глядзець на стан свайго здароўя і выконваць неабходную дыстанцыю падчас наведвання храма», — сказаў Кандрусевіч.



## Андрэй Павук

**Знакаміты блогер зноў сутыкнуўся з пагрозамі невядомых, якія прадстаўляюцца супрацоўнікамі міліцыі.**

Павуку патэлефанаваў незнаёмы, які назваўся намеснікам начальніка Упраўлення крымінальнага вышуку УУС Гомельскага аблвыканкама Файзуліным Аляксандрам Фарыдавічам. Невядомы стаў выказваць на адрас блогера пагрозы: «Перастань запускаць ужо свае ролікі, уладкуйся на працу... Мы ж будзем супраць вас шукаць нейкія іншыя рычагі ўздзеяння. Ну нешта, напрыклад, ад вашага імя замінаваць або знайсці забароненых які-небудзь прадмет у вас».

Пасля размовы Павукператэлефанаваў на нумар, з якога яму званілі, але на другім баку мужчына адказаў, што адбылася нейкая памылка — ён не тэлефанаваў блогеру. Па факце пагрозаў Павук звярнуўся ў міліцыю.

Гэта ўжо не першыя падобныя дзеянні на адрас блогера, заснавальніка групаў «Рудабельская паказуха» ў сацыяльных сетках і відэаканала на YouTube з такой жа назвай. З прычыны пагроз і праваакцый у дачыненні да Павука Беларуская асацыяцыя журналістаў нават накіроўвала ліст міністру ўнутраных спраў Юрыю Караеву з просьбай выявіць зламысніка. Аднак зламысніка так і не знайшлі.


Фота www.fishki.net

# Малако за шкоднасць і справа прынцыпу

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Зваршчык звольніўся з будаўнічага трэсту, так і не пабачыўшы прафілактычнага харчавання, якое яму належала паводле закону.**

### Малако для чальцоў прафсаюза

Пра свой канфлікт з былым працадаўцам распавёў былы работнік ААТ «Будаўніча-мантажны трэст № 27». Увесь мінулы год зваршчык не атрымліваў кампенсацыю, што належала яму за шкоднасць. Згодна з дзейным заканадаўствам, рабочым са шкоднымі ўмовамі працы павінны выдавацца малако або малочныя прадукты. Гэта вызначана пастановай Савета Міністраў РБ ад 27.02.2002 №260 «Аб бясплатным забеспячэнні працаўнікоў малаком ці раўнацэннымі харчовымі прадуктамі пры працы са шкоднымі рэчывамі». Спецыяльнасць «зваршчык ручной зваркі» ўваходзіць у спіс прафесій, якія даюць права на атрыманне бясплатнага лячэбна-прафілактычнага харчавання. Як правіла, у мэтах папярэджання прафесійных захворванняў, зваршчыкам усталяваны рацыён №2, які прадугледжвае штодзённае ўжыванне малака.

Гэтыя ж нормы закладзеныя і ў калектыўную дамову, падпісаную наймальнікам і прафсаюзнай арганізацыяй трэста №27. Паводле дадатку да дамовы, электразваршчык ручной зваркі павінен атрымліваць 0,5 літра малака за працоўны дзень. Падаецца, дробязь, але ў наш час таксама нешта значыць.

Аднак ніякага прафілактычнага харчавання Аляксей і яго калегі ў апошні час не атрымлівалі. Рабочым казалі, што «усё будзе потым». За 10 апошніх месяцаў малака зваршчык так не ўбачыў.

— У кастрычніку мінулага года я напісаў заяву аб звальненні. Цяпер шкадую толькі пра тое, што не пазначыў у ёй прычыну майго сыходу — невыкананне калектыўнага дагавора. Але кіраўніцтва мне заявіла, што не можа мяне звольніць адразу: маўляў, у арганізацыі няма грошай для разліку са мной. Я пагадзіўся на звальненне з месячнай адпрацоўкай. Адначасова я напісаў заяву аб грашовай кампенсацыі прафілактычнага харчавання, якое мне не выдавалі з пачатку 2019 года. Але мне сказалі, што грошы за малако выдаваць не належыць. Аднак у бухгалтэрыі паабяцалі, што складуць спісы, і да 1 студзеня гэтага года я атрымаю малако ў краме. Як гэта было ў 2018 годзе, — распавядае Аляксей.


Фота www.yasnybereg.ru

Рабочы кажа, што паверыў гэтаму абяцанню і цярпліва чакаў. Потым усё ж звярнуўся ў інспекцыю па працы, дзе яму параілі яшчэ раз перагаварыць з былым начальствам. Але чарговы паход у трэст зноў нічога не даў. Тады Аляксей напісаў ужо афіцыйную заяву ў Гомельскае абласное ўпраўленне Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

На што можа разлічваць працоўны? Бо сапраўды, згодна з пунктам 2.2 вышэйзгаданай пастановы Саўміна, выдача малака за мінулы час або грашовая кампенсацыя — не ажыццяўляюцца.

### Шкодная атэстацыя

Хто-небудзь скажа: «Ды навошта даросламу мужыку гэтае малако або кефір?» Але, паводле падлікаў Аляксея, працадаўца ў яго выпадку зэканоміў «на малочцы» да 100 рублёў. Толькі ў тым будаўнічым упраўленні, дзе ён працаваў, — 9 зваршчыкаў.

Ужо пасля звальнення начальнік СУ напісаў тлумачальную, чаму яго працоўным не выдавалі належную кампенсацыю. Паводле яго словаў, таму што час уздзеяння шкодных рэчываў складаў менш за палову змены. Але наш суразмоўца паказаў табель шкодных умоў працы. Насупраць прозвішча кожнага зваршчыка акуратна за кожны дзень выстаўлена па 7 гадзін працоўнага часу. Ёсць у работніка і табліца ацэнкі ўздзеяння вытворчага асяроддзя на яго працоўным месцы. Згодна з дакументам, на «зваршчыка» ляцяць азон — 1-ы клас небяспекі, марганец — 2-і клас, аксід жалеза і дыяксід крэмнію — 3-ці клас, аксіды азоту і вугляроду — 4-ы клас. Па сукупнасці праца зваршчыка ацэньваецца па 3-м класе шкоднасці.

Аднак у Гомельскае абласное ўпраўленне Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, куды звярнуўся Аляксей, працадаўца падаў іншыя даныя. Згодна ўжо выпісцы з атэстацыі працоўнага месца газазваршчыка, яго кантакт са шкоднымі рэчывамі складаў менш за палову працоўнага часу — 21,9 працэнта. А значыць, у адпаведнасці з той жа пастановай Саўміна, малако яму даваць не трэба было.

Аднак жа на руках у працоўнага ёсць табель, дзе за ім запісана па 7 гадзін працы ў шкодных умовах. Атрымліваецца, што розныя дакументы, складзеныя на адным прадпрыемстве, супярэчаць адзін аднаму.

Сам Аляксей кажа наступнае:

— Я працаваў на будаўніцтве вахтавым метадам, па 11 гадзін у дзень. Вахта — 15 дзён. Практычна пастаянна зварваў панэлі, і гэта — каля 70 працэнтаў працоўнага часу. Мне ж запісалі мізер, дый той не захацелі кампенсаваць. Што тычыцца дадзеных, якія наймальнік падаў ва ўпраўленне па працы, то яны, верагодна, складзеныя за апошнія тры месяцы. Перад звальненнем я вымушаны быў шмат дзён браць за свой кошт. У цэлым жа спецыфіка маёй працы такая, што, як толькі мантажнікі паставілі панэль — я адразу зварваю злучальныя дэталі. Працаваць жа па дзве гадзіны ў змену я не магу. Дый дзіўнай бы выглядала арганізацыя працы пры такім пастаянным выкарыстанні працоўнага часу электразваршчыка.

Пры гэтым норма аб кампенсацыі шкоднасці малочнымі прадуктамі закладзеная яшчэ і ў калектыўным дагаворы. Працоўны падаў заяву і ў свой галіновы прафсаюз. Галоўны прававы інспектар працы Гомельскага абласнога прафсаюза работнікаў будаўніцтва і прамбудматэрыялаў Надзея Шумак патлумачыла НЧ:

— Гэты зварот зарэгістраваны, і цяпер ім займаецца галоўны тэхнічны інспектар нашага прафсаюза. Менавіта да яго кампетэнцыі належаць пытанні спецхарчавання. Калі правы працоўнага парушаныя, будзе зроблена прадстаўленне кіраўніцтву аб пададзены пазоў у суд. Але неабходны дбайны разгляд. Мы цалкам на баку работнікаў, але ўсё павінна быць пацверджана дакументальна і ў рамках закона.

**«У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра прынцыпы. Нават калі мне не кампенсуюць шкодныя ўмовы працы, я перш за ўсё хачу, каб іншыя рабочыя ведалі свае правы»**

Яшчэ ў «афіцыйным» прафсаюзе сказалі, што ўсе скаргі па працоўных спрэчках неабходна падаваць у трохмесячны тэрмін. Калі прайшло больш часу, то абскарджваць неправамоцныя рашэнні больш складана.

У сваёй заяве ва ўпраўленне па працы будаўнік паказвае, што іншым зваршчыкам з 1 студзеня таксама не выдавалі лячэбна-прафілактычнае харчаванне. І просіць арганізаваць кампенсацыю таксама і сваім таварышам па працы.

— Чаму раней, у 2018 годзе, усе зваршчыкі атрымлівалі малако? А цяпер — не? Умовы і працягласць нашай працы не змяніліся. Няўжо зварка стала менш шкоднай? Ці хто-небудзь хоча зэканоміць на нашым здароўі? — пытаецца Аляксей. — Магчыма, кагосьці за гэта і пакараюць. Але гэта — не галоўнае. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра прынцыпы. Нават калі мне не кампенсуюць шкодныя ўмовы працы, я перш за ўсё хачу, каб іншыя рабочыя ведалі свае правы. І не трапляліся на вуду нядобрасумленных наймальнікаў.

Старшыня незалежнага Свабоднага прафсаюза металістаў Аляксандр Бухвостаў так пракаментаваў сітуацыю:

— Вядома, працоўныя павінны патрабаваць выдачы належнага ім спецхарчавання ва ўстаноўленыя тэрміны, як гэта прадугледжана заканадаўствам і калектыўнай дамовай. Але калі малако не было выдадзена своечасова, то ў выпадку Аляксея трэба было заяўляць пра гэта пры сыходзе з працы. І патрабаваць звальнення не па пагадненні бакоў, а з прычыны невыканання працадаўцам умоваў калектыўнай дамовы. У гэтым выпадку работніку абавязаны выплаціць матэрыяльную кампенсацыю. Цяпер жа вырашаць гэтую сітуацыю можна толькі праз суд. На жаль, паколькі Аляксей не з'яўляецца чальцом нашага прафсаюза, то выступіць яго афіцыйнымі прадстаўнікамі падчас судовага разбору мы не можам. Але юрыдычны аддзел СПМ гатовы аказаць яму кансультацыі.

У ліпені 2019 года, як паведамляе партал «Дзелавы Гомель», ААТ «Будаўніча-мантажны трэст №27» звярнуўся ў суд аб прызнанні сябе банкрутам. Аднак падобнага роду сітуацыя не здымае з працадаўцы адказнасці перад сваімі работнікамі.

Пры зварачных працах утвараецца аэразоль з таксічных газаў, розных вокісlаў і пылу металаў, у тым луку жалеза. Усё гэта трапляе ў лёгкія рабочага. І можа прывесці да такіх прафесійных захворванняў, як пылавы бранхіт, бранхіяльная астма, пнеўмаканіёзы і розныя сілікозы, нейратаксікоз, экзэма лёгкіх і іншыя. Хранічнае атручванне марганцом здольнае выклікаць шэраг цяжкіх ускладненняў, аж да хваробы Паркінсона. Дадатковае лячэбнае харчаванне, як і рэгулярнае аздараўленне ў санаторыях і на курортах, лічыцца найважнейшым сродкам прадухілення такіх цяжкіх наступстваў.

***P.S.*** *Ужо калі артыкул быў гатовы, з Гомельскага абкама Беларускага прафсаюза работнікаў будаўніцтва і прамбудматэрыялаў прыйшоў адказ. У ім фактычна прызнаюцца парушэнні з боку працадаўцы, і сказана, што прафсаюзам «прымаюцца меры па ўрэгуляванні дадзенага пытання», а таксама па прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці вінаватых службовых асоб.*

*Але, як паведаміў Аляксей, на бягучы момант зваршчыкі ніякай кампенсацыі за шкоднасць так і не атрымалі.*

# «Рускі мір» беларускага міліцыянта

Дзяніс ІВАШЫН

**Упершыню ў базу даных «Чысцец» Цэнтра даследавання прыкметаў злачынстваў супраць нацыянальнай бяспекі Украіны, міру, бяспекі чалавецтва і міжнароднага правапарадку «Міратворац» занесенае імя дзейнага афіцэра міліцыі Рэспублікі Беларусь.**

«Новы Час» звярнуўся з інфармацыйным запытам у МУС РБ па прававую ацэнку, афіцыйны каментар і дадатковыя звесткі, а таксама з крыніцаў адкрытага доступу сабраў наяўную інфармацыю ў дачыненні да беларускага фігуранта базы даных Цэнтра «Міратворац». Таксама мы атрымалі і падрабязны каментар ад кіраўніцтва гэтай няўрадавай выведвальнай арганізацыі.

Фігурантам базы даных «Чысцец» Цэнтра «Міратворац» стаў маёр міліцыі Вішнеўскі Дзмітрый Дзмітрыевіч — начальнік інспекцыі па справах непаўнагадовых (ІСН) міліцыі грамадскай бяспекі ўпраўлення ўнутраных спраў Аршанскага райвыканкама. У базе даных «Чысцец» прафайл на яго створаны 25 лютага 2020 года.




**Дзмітрый Вішнеўскі.** Фота orshanka.by

У прафайле «Міратворац» падаў асабістыя і кантактныя дадзеныя, фотаздымкі Дзмітрыя Вішнеўскага, яго выяўленыя акаўнты сацыяльных сетак, а таксама надаў дзейнаму афіцэру міліцыі МУС Беларусі азначэнні і прычыну занясення ў сваю базу дадзеных: «датычны да надання фінансавай дапамогі на карысць параненых баевікоў незаконнага ўзброенага фармавання (НУФ) "ДНР" шляхам пералічэння сродкаў на карысць так званага «Первого военного госпиталя "ДНР"».

На просьбу пракаментаваць інфармацыю Цэнтра «Міратворац» кіраўніцтва ўпраўлення па Віцебскай вобласці Галоўнага ўпраўлення ўласнай бяспекі МУС РБ у сваім адказе «Новаму Часу» пазначыла, што гэтыя звесткі пацвярджэння не знайшлі.

«Новы Час» звязаўся непасрэдна з Дзмітрыем Вішнеўскім, аднак ён адмовіўся даваць каментары і параіў звяртацца да прэс-службы УУС Віцебскага аблвыканкама.

Паводле адкрытай інфармацыі, Дзмітрый Вішнеўскі нарадзіўся ў траўні 1984 года ў Оршы Віцебскай вобласці БССР. У 2001 годзе скончыў аршанскую сярэднюю школу №20. Пасля заканчэння ў 2003 годзе Аршанскага каледжу Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава працаваў педагогам-арганізатарам у СШ №11 Оршы. У 2007-м ён атрымаў прапанову перайсці на працу ў Аддзел унутраных спраў Аршанскага гарвыканкаму (ГАУС). Згодна з дадзенымі яго акаўнтаў у сацсетках, працаваць участковым інспектарам ІСН Аршанскага ГАУС ён пачаў з 2008 года.

У 2013-м Вішнеўскі скончыў факультэт падвышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіраўнічых кадраў Акадэміі МУС Беларусі. Мае заахвочванні, падзякі і граматы ад кіраўніцтва аршанскай міліцыі і УУС Віцебскага аблвыканкама. З кастрычніка 2015 года з'яўляецца начальнікам ІСН аддзелу ўнутраных спраў (РАУС), а з кастрычніка 2018-га — упраўлення ўнутраных спраў Аршанскага райвыканкама. У лістападзе 2018 года ўзнагароджаны медалём «За бездакорную службу» III ступені за «ўзорнае выкананне службовых абавязкаў».

Цікава, што паводле інфармацыі аршанскага рэгіянальнага парталу orsha.eu, Дзмітрый Вішнеўскі 13 сакавіка 2017 года цэлы дзень працаваў у судзе Аршанскага раёна і Оршы. Менавіта ў гэты дзень адбываліся суды над затрыманымі днём



Вишневский Дмитрий Дмитриевич / Вишневський Дмитро Дмитрович / Vishnevskij Dmitrij Dmitrievich

**Дата рождения:** 15.05.1984
**Страна:** Беларусь
**Адрес:** Витебская обл., г.Орша
**Телефон:** +375291631422, +375292948074

**Пособник террористов и оккупантов. Финансирование терроризма.**

Співробітник Оршанського РВ УМВС РБ у Вітебській області. Причетний до надання фінансової допомоги на користь поранених бойовиків-найманців НЗФ „ДНР" шляхом перерахування коштів на користь т.зв. „Первого военного госпиталя ДНР"

Дата рождения: 15.05.1984
E-мейл: idnorsha@mail.ru
Соцсети: https://vk.com/bombik1984 (https://vk.com/id100534684)
https://ok.ru/profile/514415529576
https://my.mail.ru/mail/idnorsha/
Источник: #dibbod

***Центр «Миротворец» просит правоохранительные органы рассматривать данную публикацию на сайте как заявление о совершении этим гражданином осознанных деяний против национальной безопасности Украины, мира, безопасности человечества и международного правопорядка, а также иных правонарушений.***

#R1635507X198A16A66A100N

25.02.2020 12:29 Rmind-UA

**Прафайл на маёра міліцыі Д. Вішнеўскага ў БД «Чысцец» Цэнтра «Міратворац».** Фота: выкадроўка скрыншоту старонкі https://psb4ukr.org/criminal/vishnevskij-dmitrij-dmitrievich/




**Дзмітрый Вішнеўскі (праваруч на пярэднім плане) падчас затрымання падлетка.** Фота www.nn.by

раней удзельнікамі мясцовага «Маршу недармаедаў». Вішнеўскі асабіста ўдзельнічаў у затрыманнях, журналісты і праваабаронцы зафіксавалі яго непасрэдна падчас аднаго з такіх, у выніку якога быў затрыманы падлетак.

Журналісты парталу orsha.eu высветлілі, што гэты непаўнагадовы не ўдзельнічаў у акцыі пратэсту, а проста накіроўваўся на заняткі да рэпетытара.

У межах сваіх службовых абавязкаў Дзмітрый Вішнеўскі здзяйсняе інфармацыйна-прапагандысцкую дзейнасць па прафілактыцы злачынстваў сярод падлеткаў, непасрэдна кантактуе з навучэнцамі адукацыйных устаноў.

А вось што можна пабачыць у яго акаўнтах у сацсетках. Падаем ніжэй толькі некаторыя з іх.

Вызначана, што Вішнеўскі з'яўляецца ўдзельнікам групаў у сацсетцы «VK»: «Политика / ПМОП «Беркут» оплот спокойствия страны», «Великая Россия», «Эту страну не победить», «США — спонсор мирового террора» і іншых. У 2014 годзе ў сацсетцы «VK» адкрыта падтрымліваў байцоў расфарміраванага спецпадраздзялення «Беркут» МУС Украіны.

Кіраўнік Цэнтра «Міратворац» Раман Зайцаў на запыт «Новага Часу» пацвердзіў сапраўднасць звестак у дачыненні да Дзмітрыя Вішнеўскага, пададзеных на аднайменным сайце ў раздзеле «Чысцец». Апроч гэтага, у Цэнтры паведамілі, што з меркаванняў бяспекі крыніцаў, частка інфармацыі пра датычнасць афіцэра беларускай міліцыі да надання фінансавай дапамогі параненым наймітам і баевікам незаконных узброеных фарміраванняў «Л/ДНР» праз пералічэнне сродкаў «Первому военному госпиталю ДНР» закрытая для публічнага доступу і можа быць нададзеная толькі паводле запытаў праваахоўных органаў Украіны або дзяржаваў-чальцоў NATO.



Дмитрий Вишневский
1 мар 2014

Политика| ПМОП "Беркут" оплот спокойствия страны
1 мар 2014 в 15:50

Харьков. Бандерлогов чуть не разорвали... =))
А вас предупреждали... ну предупреждали же вас!!!

дополнение 15:50: АнтиМайдан Харьков
всем внимание. мы выбили фашистов из хога и здания оплота. харьков свободен. милиция с настоящим народом. у бендерлогов было обнаружено склады перотехники. горючки и газа.

Фото событий:

Апроч публікацыі ідэнтыфікацыйных дадзеных, Цэнтр «Міратворац» таксама змясціў зварот да праваахоўных органаў разглядаць пададзеную ім інфармацыю на сваім сайце як заяву пра здзяйсненне грамадзянінам Беларусі свядомых дзеянняў супраць нацыянальнай бяспекі Украіны, міра, бяспекі чалавецтва і міжнароднага правапарадку, а таксама іншых злачынстваў.

Згаданы ў прафайле «Міратворца» так званы «Первый военный госпиталь ДНР» (ПВГ) паўстаў напачатку чэрвеня 2014 года на базе захопленага баевікамі тэрарыстычнага ўтварэння «Л/ДНР» у Данецку аддзялення Абласнога лекавальна-аздараўленчага цэнтру бальніцы імя Калініна. Захоп тады юрыдычна быў замацаваны ўказам старшыні так званага «Народного Совета ДНР» Андрэя Пургіна паводле наўпраставага загаду так званага «премьер-министра ДНР» Аляксандра Барадая.




Узімку 2014–2015 гадоў персанал ПВГ разгарнуў выязны медпункт непадалёк Данецкага аэрапорту для надання медычнай дапамогі баевікам «Л/ДНР», якія здзяйснялі няспынныя атакі на абаронцаў ДАП.

Паводле сведчанняў расійскіх прапагандысцкіх медыярэсурсаў, а таксама інфармацыі з афіцыйных крыніцаў самога шпіталя, за перыяд актыўных баявых дзеянняў 2014–2015 гадоў яго супрацоўнікі надалі медычную дапамогу ад 8 да 13 тысячам параненых баевікоў.

Так званы колішні «главнокомандующий ДНР» Ігар Гіркін асабіста ўзнагародзіў супрацоўнікаў ПВГ знакам за заслугі «Защитник Новороссии».

Інфармацыя, пададзеная Цэнтрам «Міратворац», — наўпрост закранае пытанні нацыянальнай бяспекі Беларусі. Усе выпадкі фінансавання і матэрыяльнага забеспячэння грамадзянамі Беларусі наймітаў НУФ неабходна грунтоўна расследаваць, каб зменшыць магчымасць учынення гэтых супрацьпраўных дзеянняў у будучыні ў нашай краіне. Да непасрэдных рэалізатараў гэтага фінансавання грамадзянскай супольнасці Беларусі і прабеларускай частцы сілавікоў неабходна прыяўляць падвышаную ўвагу.

Варта асабліва нагадаць, што за фінансаванне і іншае матэрыяльнае забеспячэнне баевікоў НУФ як паводле беларускага, гэтак і паводле ўкраінскага заканадаўства прадугледжана крымінальная адказнасць (арт. 132 КК РБ, арт. 447 КК Украіны).

# Надзя Бука: «Баюся Бога і

Ганна ВАРОНКА

**Мастачка, вынаходніца буцінанкі (накірунак выцінанкі), пісьменніца-казачніца Надзя Бука пры сустрэчы адразу нагадала мне чароўнага персанажа. Яна, нібы мікс з Пэпі Доўгай Панчохі, Эллі з краіны Оз і мумі-троля, стварае свет фантазій у сваіх карцінах і кнігах. Як выжыць мастаку ў Беларусі і чаму важна быць дзіўным і шчаслівым — на прыкладзе Надзі Бука.**



***— Вы баіцеся матылькоў. Але на апошняй выставе «Асабістая справа» з'явілася карціна «Крыніца святла» (на дзяўчыну злятаецца процьма матылькоў). Гэта ж проста начны жах...***

— Вельмі баюся матылькоў: калі на лецішчы лётаюць побач са мной, не магу нават паварушыцца. Але муж добра гэта ведае і адганяе. Гэты страх называецца матэфобія, і ён даволі распаўсюджаны. Напрыклад, Ніколь Кідман таксама ад яго пакутуе. Калі я выразала матылькоў для буцінанкі «Крыніца святла», муж захацеў зрабіць кадр, дзе яны, з каляровай паперы, сядзяць на маёй руцэ. Але нават ад папяровых у мяне затрэслася рука і стала страшна: яны не жывыя (я гэта разумею), але раптам зараз паляцяць?! Калі стварала карціну, думала, што такім чынам перамагу гэтую фобію, але не.

«Крыніца святла» — не толькі пра страх матылькоў. Гэта аўтапартрэт. Дзяўчына, як лямпачка, свеціць іншым (не толькі пра мяне, але ўвогуле пра людзей, што дзеляцца цеплынёю са светам). І як важна не страціць тое святло, што гарыць у кожным з нас, распальваць яго добрымі ўчынкамі і словамі. Не ведаю дакладна, чаму баюся матылькоў, можа, гэта з дзяцінства: нагледзелася шматлікіх энцыклапедый пра насякомых. Памятаю, у адной кнізе быў цэлы разварот з малюнкам агромністага матыля. Я вельмі баялася гэтай ілюстрацыі.

***— Вы нарадзіліся ў сям'і мастака Івана Смалькова, расказвалі, што ў вас быў незвычайны дом: замест шпалераў распісаныя сцены, вітражы. Якім было ваша дзяцінства?***

— Дзяцінства было казачным. Мне заўсёды дазвалялі браць любыя кнігі з паліц: казкі, энцыклапедыі, альбомы па мастацтве. І гэта, вядома, паўплывала на маё культурнае развіццё. Я памятаю, што адной з першых маіх кніг былі коміксы пра Бога, намаляваныя Жанам Рафаэлем. Цяпер яны стаяць у маім доме, і сыны таксама іх гартаюць, ім падабаецца. Шмат часу праводзіла з сяброўкамі ў двары. Любіла скакаць у гумку — і была адной з самых скакучых! Яшчэ адной любімай гульнёй былі хованкі сакрэцікаў: пад знойдзенае шкельца клалі блiскучую паперку і зарывалі ўсё гэтае багацце ў зямлю. А на наступны дзень шукалі сакрэцік. Хлопчыкі палявалі за імі, і калі знаходзілі, маглі разбурыць. Таму было вельмі важна пазначыць тое месцайка лісцікам ці зубачысткай так, каб ніхто акрамя цябе не здагадаўся. Часам там хавалі нешта сапраўды каштоўнае: я аднойчы паклала пад шкельца маміну завушніцу. Яна пра гэта не ведала, канешне (смяецца). Вельмі любіла ставіць лялечныя спектаклі сама для сябе. Калі мне было гадоў адзінаццаць, захапілася п'есамі Шэкспіра і Мальера. Падбірала касцюмы лялькам (а іх было шмат, бо я малодшая з трох дачок, і мяне песцілі), ставіла дэкарацыі з дзіцячай мэблі... Атрымліваліся сапраўдныя спектаклі. А бацькі назіралі і думалі, што вырасце актрыса ці рэжысёрка, але з'явілася мастачка. Яшчэ марыла стаць касманаўтам і паляцець у космас. Але мама сказала, што ў мяне кепскі зрок, праз які не прайсці медкамісію.

***— У многіх інтэрв'ю вы расказваеце пра бацьку, але пра маці амаль нічога. Якая яна?***

— Мая маці вельмі клёвая! Яе творчасць — у вязанні. У савецкія часы было не так шмат адзення, але праз тое, што яна добра вязала (ад спадніц да суненак), мы з сёстрамі хадзілі ў дзяцінстве як лялькі. У мяне была кофта з выявай балотнага пейзажу, з чаплямі. Яшчэ памятаю чорненькую — там маці выявіла вёсачку ў гарах. Сапраўдныя карціны! Мне падаецца, мая сіла характару — у маці. Яна вельмі прынцыповая, справядлівая, заўсёды кажа праўду. Я вельмі ёй удзячная за наша з сёстрамі выхаванне. Мяркую, магу сказаць, што я з разведзенай сям'і — бацькі разышліся, калі мне было 13 гадоў. Старэйшая сястра была замужам, а нас, дваіх дачок, гадавала адна маці. Мама ўсё роўна была вясёлая, яна і засталася аптымісткай па жыцці. Цяпер, калі сама маю дзяцей, разумею, што было няпроста выхоўваць дзвюх дачок. Тым больш у такім складаным падлеткавым узросце, але яна справілася. Мама моцная. Вельмі хачу быць падобнай да яе.

**Як слон выношвае сваё дзіця два гады, так і мая творчая цяжарнасць можа доўжыцца вельмі доўга — шмат думаю, дапрацоўваю. Лічу, што мастак у першую чаргу павінен быць шчырым — здараецца, на гэта патрэбны час**

***— А ад бацькі што дасталася?***

— Творчасць! Успаміны пяці-шасцігадовай Надзі: бацька саджае мяне на веласіпедную раму — гэта мы едзем у майстэрню праз увесь горад; падымаемся на апошні паверх пяціпавярховіка, тата ставіць за мальбертам. Ён піша пастэллю і дае мне фарбы таксама, аркуш паперы. Я ў той час любіла маляваць пеўнікаў, куранят. У бацькавай майстэрні стаяў прайгравальнік для кружэлак, часта гралі The Beatles... Гэтыя ўспаміны застануцца на ўсё жыццё.

***— У вас ёсць майстэрня?***

— Не, усе карціны я ствараю дома. За звычайным сталом, дзе абедаем і вячэраем з сям'ёй. Але калі дзеці кладуцца спаць, я прыбіраю ўсё са стала, малюю, потым выразаю, ствараю ілюстрацыі для кніг таксама там. Майстэрня — гэта вельмі накладна, я ж не ў Саюзе мастакоў. Дый не пішу алеем, у мяне ўсё акуратненька — толькі каляровая папера. Праўда, пад нагамі яе збіраецца шмат, але гэтую праблему хутка вырашае пыласос.

***— А чаму, дарэчы, вы не сябра Саюза мастакоў?***

— Не ведаю (задуменна). Мне ніколі асабліва туды не хацелася. Не думала пра гэта, шчыра кажучы. Можа, праз некалькі месяцаў і ўступлю, ёсць такія прапановы. Дарасла! Бацька таксама ніколі не быў у Саюзе мастакоў. Усё казаў: «Нашто мне гэта патрэбна». Гэта ж трэба будзе збіраць, запаўняць нейкія паперы, надта ж я такое не люблю.

***— Вы скончылі мастацка-прыкладное аддзяленне Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага. А пасля размеркавання апынуліся ў вёсцы Краснае. Як там было?***

— У каледжы я і захапілася выцінанкамі. Мая выкладчыца, Вікторыя Мікітаўна Чырвонцава, была адной з адраджальніц выцінанак у Беларусі. Яна так зацікавіла мяне гэтым мастацтвам, што ў якасці дыпломнай працы я зрабіла шэраг ілюстрацый да кнігі ўласных вершаў. А па размеркаванні мяне накіравалі ў вёску Краснае. Я выкладала там тры гады — трэба было два, але я затрымалася, бо патрэбныя былі грошы. Ездзіла на электрычцы, да школы даводзілася ісці праз поле, часам нават сустракала кароў, якіх таксама баюся. Вясковыя дзеці іншыя: больш удзячныя, працейшыя за сталічных. Але я б не хацела туды вяртацца — мой клас не ацяпляўся, і я ўрэшце захварэла на двухбаковае запаленне лёгкіх. Не вельмі добрыя ўспаміны.

***— Вы казачніца, выдалі дзве кнігі пра дзяўчынку Басю, але вы яшчэ і мама двух сыноў. Не хочаце нешта напісаць пра хлопчыкаў?***

— У другой частцы («Бася і яе чароўны свет». — Заўв. аўт.) у Басі з'яўляецца малодшы брат, якога завуць, як і майго малодшага сына, Ян. Але галоўная гераіня — дзяўчынка, бо гэта мая гісторыя. Бася — гэта я ў дзяцінстве. Дзяўчынка-летуценніца, што любіла маляваць і не любіла расчэсваць валасы (і цяпер не люблю, бо яны ў мяне кучаравыя). Я толькі дадала трохі фэнтэзі.

***— Я чытала, што калі ў вас творчы крызіс, вы стараецеся змяніць лакацыю. Прыгадаеце апошнюю?***

— Толькі-толькі вярнулася з майстар-класаў у Горадні. Вельмі адпачыла! Цяпер часта праводжу выязныя заняткі па маляванні з дзеткамі, часцей за ўсё запрашаюць ксяндзы рэгіянальных парафій. Гэта для мяне не праца — адпачынак. Праца — калі на заказ трэба зрабіць ілюстрацыю ці распрацаваць лагатып. Я таксама займаюся дызайнам, прыдумваю прынты для цішотак. Але самая запамінальная вандроўка ў жыцці была ў Ізраіль. Мне 14 гадоў, я выйграла міжнародны конкурс («Дзеці свету малююць Іерусалім». — Заўв. аўт.) і ўпершыню адна паляцела ў іншую краіну. Тым больш на два тыдні! Адчула сябе такой самастойнай, дарослай... Цёплы клімат, блакітнае неба, чырвона-ружова-жоўтыя людзі, калі характарызаваць колерам іх менталітэт. А мы, беларусы, — бэжавыя, шэрыя, пудравыя. Ізраіль не падобны ні да адной краіны, дзе я была (а была шмат дзе). Мне 38, а я помню да дробязяў, якіх людзей я там сустрэла, мясціны, нават мэблю ў кавярнях.

***— А вы робіце накіды падчас вандровак ці задумы?***

— Падарожжы — адпачынак ад мастацтва, гэта не пленэр. Але падчас вандровак прыходзіць шмат задумаў, якія я захоўваю на нявызначаны тэрмін. Так было з карцінай «Навылет» — там стаіць жанчына, і праз яе наскрозь пралятае чайка — я яе стварыла ў 2019 годзе, а задумала за шэсць гадоў да таго. Як слон выношвае сваё дзіця два гады, так і мая творчая цяжарнасць можа доўжыцца вельмі доўга — шмат думаю, дапрацоўваю. Лічу, што мастак у першую чаргу павінен быць шчырым — здараецца, на гэта патрэбны час. Можа, таму і назвала апошнюю выставу «Асабістая справа», бо ўсе карціны адлюстроўваюць патаемнае. Часам страшна, што пра мяне будуць шмат ведаць.

У падарожжах заўсёды звяртаю ўвагу на архітэктуру, я ёй захапляюся. Таксама ніколі не прамінаю цікавых музеяў і мясцовых галерэй. Адпачынак усё ж павінен быць культурным. Але ў мяне два сыны: ім звычайна больш хочацца марозіва і на мора, таму атрымліваецца палова на палову. Але, калі хачу паехаць у вандроўку адна, выбіраю

# матылькоў!»

Скандынавію: пабыць сам-насам з прыродай, паглядзець на мора, на скалы. Гэта надзвычай натхняе. Вельмі падабаецца, калі вецер дзьме ў твар, ды так, каб аж збіваў з ног. Люблю мора не за ваду, а за вельмі моцны вецер. Я з дзяцінства размаўляю з ветрам. Аднойчы ішла ў школу, і ён у мяне з рук вырваў парасон. Бегла за ім і сварылася: «На што ты адабраў мой любімы парасон, вярні мне яго!» І ў гэты ж момант напрамак ветру змяніўся, і парасон амаль у рукі прыляцеў... Для мяне вецер — гэта жывая істота, ён бывае добрым, злым, цёплым, халодным. Не падумайце, што я ўжо з глузду з'ехаўшая (усміхаецца). Зразумела, у першую чаргу я веру ў Бога.

***— Вы ведзяце гурток па маляванні «Крылы натхнення» пры касцёле, і некаторыя вашы карціны маюць рэлігійную тэматыку. Вас можна назваць верніцай?***

— Пабожным чалавекам, як кажуць у нас у касцёле? Так, я верніца, каталічка, хаджу ў касцёл кожную нядзелю, веру ў Бога і хачу жыць па яго запаведзях. Невыпадкова, што мая асноўная мастацкая студыя пры касцёле Святога Роха існуе ўжо трэці год. Мы з дзеткамі там робім як звычайныя кампазіцыі, так і малюнкі на рэлігійную тэматыку. Калі ў мяне пытаюцца, чаго баюся, я адказваю: «Бога і матылькоў!» (смяецца). Быць вернікам вельмі важна ў наш час, гэта фундамент, на якім трымаецца сям'я. На жаль, не ўсе гэта разумеюць, можа, таму так шмат разводаў і «закінутых» дзяцей. Я не з дзяцінства выхоўвалася ў такой атмасферы. У 19 гадоў сама прыйшла ў касцёл і там засталася. Можа, для мяне рэлігія такая важная, бо разумею, што да яе дарасла сама.

***— А чаму менавіта каталіцтва?***

— Там вельмі дэмакратычна, шмат дапамогі адзін аднаму, ладзіцца многа мерапрыемстваў для дзяцей і моладзі. Шмат хто кажа: «Я ў касцёле, бо тут арган, можна сядзець на лаўцы і хадзіць у джынсах». Не, я не праз гэтыя прычыны — гэта такія дробязі. У каталіцтве галоўнае: увага надаецца табе як асобе, ты — не частка шэрай масы. Не магу нават растлумачыць, гэта неяк вышэй. Можа, нават не я выбірала каталіцтва, можа, Бог вырашыў накіраваць мяне ў касцёл.

***— Колькі вучняў займаецца ў студыі «Крылы натхнення», якую вы ўжо згадалі?***

— Цяпер каля 40 вучняў, яны падзеленыя на чатыры групы ў залежнасці ад узросту. Самая малодшая — дзеці ад сямі да адзінаццаці гадоў. Яны займаюцца, што вельмі цікава, разам з бацькамі: дачка малюе, і побач яе бацька нешта стварае, маці трымае пэндзлік, і сынок робіць тое ж самае... Яны выконваюць аднолькавыя хатнія заданні і прыносяць да мяне. Гэта вельмі яднае сям'ю. Самае цікавае, што так выйшла само сабою: дзеці малявалі, а бацькі самі папрасіліся, і потым дзякавалі, бо праз маляванне сталі бліжэй да сваіх дзяцей. Дзякуй Богу за такія заняткі! Яшчэ адна група — падлеткі. І апошняя — дарослыя (самай старэйшай навучэнцы каля 70-ці!). Узросты вельмі розныя: ад 18 да бясконцасці. Студыю наведваюць не толькі каталікі, праваслаўныя складаюць прыкладна палову маіх вучняў.

Калі ў кагосьці нешта не атрымліваецца, кажу: «Я веру ў цябе, усё атрымаецца!» І атрымліваецца. Не так даўно даведалася, што некаторыя мае навучэнкі ўжо прадаюць свае творы, а яшчэ два гады таму яны нават не ведалі, як аловак у руках трымаць. Гэта мяне вельмі цешыць! Разумею, што ў гэтым ёсць і мая заслуга.

***— Вы таксама выкладаеце ў студыі пры грэка-каталіцкай парафіі Святога Язэпа...***

— Так, я туды езджу па панядзелках бясплатна. У гэтай студыі займаюцца псіхічна хворыя людзі, якія жывуць у інтэрнаце — адтуль іх прывозяць на заняткі па маляванні, арт-тэрапіі. Восем вучняў, дарослыя людзі, большасць мужчыны. Для іх гэта сапраўднае свята, бо інтэрнат закрыты. А як прыедуць у студыю, дык мы з імі размаўляем, п'ём каву-гарбату, падмацоўваемся салодкасцямі, я ўключаю музыку. Аднаго разу не прыехала на заняткі праз хваробу, а жонка святара потым казала, што мае навучэнцы тэлефанавалі і плакалі ў слухаўку... Тое, што яны ўсміхаюцца, на некаторы час становяцца шчаслівымі — гэта і ёсць мой заробак. Яны вельмі файна малююць, добра адчуваюць колер, не так, як звычайныя людзі. Летась студыю наведвала дзяўчынка Соня: зубамі трымала рукаў, каб рука магла маляваць, бо кісць не працуе. І такія складаныя малюнкі рабіла, што я проста дзіву давалася, які ў яе моцны характар і мэтанакіраванасць. Усё казала: «Я такая шчаслівая, што магу маляваць!» Таленавітая дзяўчынка, хоча стаць мастачкай.

***— У Беларусі не надта прызнаюць творчыя прафесіі — успрымаюць іх хутчэй як хобі. Як думаеце, склалася ў нашым грамадстве ніша мастацтва, дзе творца мае магчымасць, хай не параўноўваючы з сусветнымі ганарарамі, прыстойна зарабляць?***

— Не, на жаль, не. Як ні крыўдна казаць, але ў нашай краіне мастак пакуль не можа жыць толькі за кошт свайго мастацтва — маю на ўвазе продаж карцін. Беларусь — вельмі небагатая краіна. І калі ў звычайнага беларуса спытаць, што ён купіць: канапу ці карціну, — а яны каштуюць прыкладна аднолькава, — то выберуць першае. Можа, аднойчы людзі навучацца бачыць розніцу паміж змаляванай бярозай ці букетам півоняў і карцінай, якая нясе сэнс і праблематыку. Культуры ўспрымання мастацтва трэба вучыцца. Калі гэтыя веды пачнуць закладацца ў школах, будзе большая цікавасць да карцін сучасных мастакоў. Канешне, у мяне купляюць карціны, але часцей за ўсё гэта замежнікі (з Літвы, Эстоніі, ЗША, Расіі) і не так часта, як мне хацелася б. Калі б жыла адна і толькі мастацтвам, я б галадала. Мой асноўны заробак — праца як настаўніцы, ілюстраткі і дызайнеркі. І так — амаль ва ўсіх маладых беларускіх мастакоў. Калі ты ўжо выбраў такі шлях, то цярпі — калісьці прыйдзе і твой час! Я ўжо не збочу з гэтай дарогі, бо інакш падману сама сябе. Вельмі важна зразумець у жыцці, хто ты ёсць. Быў час, калі я лічыла, што журналістка, працавала на тэлебачанні дзесяць гадоў, і гэтага часу хапіла зразумець, што я мастачка.

***— У вас было каля 50 выстаў, і, наколькі я чула, з першым выстаўнікам вы пазнаёміліся акурат у час, калі былі яшчэ журналісткай. Як гэта адбылося?***

— Мая першая выстава адбылася дзякуючы Дзянісу Барсукову. Я брала ў яго інтэрв'ю, у той час ён быў дырэктарам галерэі «Інстытут культуры». Даведаўшыся, што я мастачка, Дзяніс папрасіў дасланць паглядзець некалькі твораў. У мяне тады было толькі дзве карціны, выразаныя нажніцамі. Урэшце ён згадзіўся зрабіць маю асабістую выставу ў сваёй галерэі пры ўмове, што павінна быць не менш за 30 работ. А я тады працавала на тэлебачанні ў навінах — час заняты з дзевяці раніцы да дзевяці вечара, а ў хаце яшчэ муж і малы сын. Прыходзілася маляваць і выразаць карціны ўначы. Але праз колькі месяцаў, у 2011 годзе, адкрылася мая першая выстава.

***— Вы часта кажаце, што вас вельмі падтрымлівае муж, вядзе сайт, фатаграфуе работы... Як вы пазнаёміліся?***

— Мы з сяброўкай Наташай гулялі ў маладзечанскім двары і сустрэлі яе знаёмых, сярод якіх быў і Гена. Ён мне адразу спадабаўся, бо быў металістам — доўгія валасы, байка з рок-гуртом. Я ў той час таксама была металісткай, нефармалкай з доўгімі фіялетавымі валасамі, насіла рваныя джынсы, байку з чэрапам і некалькі ланцужкоў. Праз любоў да аднолькавай музыкі мы з Генам вельмі часта сустракаліся на розных рок-фестывалях і канцэртах. «Музыка нас звязала», — гэта, напэўна, трапнае выказванне. У яго была іншая дзяўчына, у мяне іншы кавалер, але мы сябравалі. Праз два гады, калі абодва сталі вольнымі, мы закахаліся адно ў аднаго, і гэтая гісторыя цягнецца дагэтуль. Гена вельмі далікатны чалавек, вельмі добры. Такіх добрых людзей, як Гена, я ў жыцці не сустракала і, пэўна, не сустрэну. Ён, як Дзед Мароз у квадраце. Заўсёды кажа, што ў яго тры дзіця: я, Жэня і Ян. Гена — класны бацька, сыны яго проста любяць, ён для іх і тата, і сябар. А для мяне ён вельмі моцная падтрымка: амаль усе фотаздымкі, якія можна ўбачыць у маіх сацсетках, зрабіў ён. Гена — вельмі таленавіты фатограф, хаця эканаміст па адукацыі (але што тая адукацыя!), таму разумее і мяне як мастака. У мяне няпросты характар: мала таго, што я дзіўная, жыву ў сваім сусвеце (ну касманаўт!), дык яшчэ магу быць без настрою і з капрызамі. Зараз будзе 17 гадоў, як мы жанатыя, а мне дагэтуль з ім вельмі лёгка. Ведаю, што ён заўсёды мяне зразумее і падтрымае. Добра, што да таго, як закахаліся, мы былі сябрамі, даведаліся, якія мы асобы насамрэч, без ідэалізацыі. Я вельмі ўдзячна Богу і лёсу, што сустрэла Гену тады ў маладзечанскім двары.

***— Я даволі многа прачытала інтэрв'ю з вамі. Можа, ёсць нешта, што вы хацелі б расказаць, але ніхто пра гэта чамусьці не пытаецца?***

— Ці шчаслівы я чалавек... Ніколі ніхто не запытаўся! (Усміхаецца.)

***— Цудоўна! Ці шчаслівы вы чалавек?***

— А вы напішаце, што я гэта сама ў сябе запытала? Так, я шчаслівы чалавек (усміхаецца). Не ведаю, чаму гэтае пытанне ніколі не гучыць, а мне здаецца, гэта вельмі важна. І шчасце маё ў тым, што я знайшла сваё прызначэнне на Зямлі. Шчаслівая тым, што я магу рабіць тое, што люблю, і нават зарабляць гэтым на жыццё. А яшчэ ў мяне вельмі файная сям'я, сябры і побач па жыцці вельмі цікавыя людзі. Сапраўды адчуваю, што пасля трыццаці гадоў у маім жыцці наступіла вясна.







**Фота і ілюстрцыі з асабістага архіва Надзеі Бука**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Маскоўскіх не пускаць!

Той факт, што Масква з'яўляецца эпіцэнтрам эпідэміі каранавіруса ў Расіі (прыкладна 80 выпадкаў зафіксавана ў сталіцы), узмацніў і так не вельмі пазітыўнае стаўленне правінцыялаў да жыхароў метраполіі. На перыферыі папулярны міф пра тое, што вірус завезлі ў краіну багатыя масквічы, якія маюць магчымасць адпачываць за мяжой. Закладнікамі такіх забабонаў сталі рэзідэнты сталіцы, якія куплялі ўчасткі ў суседніх абласцях. Відавочна, што набывалі іх шмат у чым «на ўсялякі пажарны выпадак». Форс-мажор настаў, і раптам… на вёсцы масквічоў сустракаюць з віламі. Журналіст RT (дарэчы, праўладнае выданне) Аляксей Баярскі ў сецівe апісаў наступную гісторыю: «Весткі з вёскі Цвярской вобласці. Пару дамоў там купілі масквічы, куды прыехалі на каранцінныя вакацыі. Толькі пачалі разгружацца, як сабраўся мясцовы народ і паведаміў, каб валілі назад. Маўляў, калі ты дзесьці па італіях боўтаўся ці проста ў сталіцы вірус падхапіў, то да Масквы даехаць паспееш — там вылечаць. А нам тут звяртацца няма куды — раённая бальніца ў поўным крызісе. Так што валіце адсюль, не заражайце нас. У выніку госці вярнуліся ў Маскву». Каментуючы гэтую гісторыю, на форумах патрабуюць цалкам ізаляваць Маскву, што, маўляў, дасць магчымасць астатнім расіянам «весці нармальнае жыццё, як раней».

**Паводле расійскай прэсы**

### ПАЎДНЁВАЯ АМЕРЫКА. Хавайся ў лесе!

Уадрозненне ад іншых народаў, індзейцам Паўднёвай Амерыкі каранцін не пагражае. Яны прыдумалі арыгінальны спосаб, каб захаваць здароўе падчас эпідэміі: проста пакінулі вёскі і выправіліся жыць у джунглі. Так, калі верыць прэсе, зрабілі ўжо 16 плямёнаў з агульным насельніцтвам 16 тысяч чалавек на тэрыторыях Бразіліі, Калумбіі, Перу і Эквадора. Логіка індзейцаў грунтуецца на гістарычнай памяці. Падчас папярэдніх кантактаў з еўрапейцамі ім часта перадаваліся шматлікія невядомыя тубыльцам хваробы, якія літаральна касілі абарыгенаў. Не дзіўна, што каронавірус яны разглядаюць як сапраўдную чуму. Па словах аднаго з правадыроў бразільскіх індзейцаў, «каронавірус нас цалкам знішчыць». Таму прынята аднагалоснае рашэнне перачакаць пік эпідэміі як мага далей у лесе.

**Паводле бразільскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Быць, як шведы

Гледзячы на дэбаты на старонках французскай прэсы, хутка мы станем сведкамі заняпаду традыцыйнай народнай культуры раманскіх народаў Еўропы. Прычына ў тым, што яе кодэкс вымагае быць кантактным і шмат часу праводзіць у публічнай сферы. Французы, італьянцы і іспанцы вельмі любяць камунікаваць (часта ў кампаніі), цалавацца, абдымацца і гэтак далей. Усё гэта, паводле некаторых аўтараў, і тлумачыць маштаб захворванняў у еўрапейскіх раманскіх краінах. У сакавіку было дастаткова ўсяго двух тыдняў, каб у той жа Іспаніі вірус забіў пяць тысяч чалавек. З іншага боку, на поўначы Еўропы вірус наступае больш павольна з прычыны, як лічыцца, больш халоднай культуры тутэйшых. Скандынавы не лезуць абдымацца з сябрамі на вуліцы, і ўвогуле намагаюцца жыць на дыстанцыі ад суседзяў. Усё гэта дае падставы выданню Le Depeche, каб звярнуцца да французаў з арыгінальным заклікам: «Пачынаючы з гэтага дня мы павінны стаць менш прыязнымі і больш падобнымі да шведаў!»

**Паводле французскай прэсы**

### ЗША. Вірус супраць студэнтаў

Калі лагічна развіваць тэзісы выдання Washington Post, то прынамсі ў Злучаных Штатах, тых, хто быў студэнтам у часы цяперашняй эпідэміі, чакае невясёлая прафесійная кар'ера. Ім будзе цяжка ўладкавацца на добрую працу. Усё праз вірус, які закрыў амаль усе ВНУ краіны. Студэнтаў, зразумела, адправілі па хатах аж да пачатку навучання ўвосень. У сувязі з гэтым спецыялісты прагназуюць вялікі прагал у іх ведах, і спасылаюцца на папярэднія даследаванні наконт уплыву летніх вакацый на студэнцкія мазгі. Толькі за два месяцы летняга адпачынку звычайны студэнт забывае 36 працэнтаў матэрыялу, што ён вучыў у папярэднім годзе. У выпадку, калі студэнт адпачывае праз каранцін 6 месяцаў, ён, як піша выданне, забудзе палову з таго, што вывучаў раней. А дзеці з бедных сем'яў, дзе асяроддзе не асабліва матывуе вучыцца падчас канікул, могуць забыць яшчэ больш. Пакуль ніхто не ведае, як адукацыйная сістэма Злучаных Штатаў будзе вырашаць праблему, што здольная яшчэ больш абвастрыць праз магчымы працяг каранціну ды адпаведны перанос заняткаў і на больш позні тэрмін.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.ria.ru

# Вярнуць Астану

Алег НОВІКАЎ

**Прыкладна год таму сталіца Казахстана Астана стала называцца Нур-Султан — у гонар Нурсултана Назарбаева. Аднак супраціў новай назве дасюль працягваецца.**

«А цяпер трэба перайменаваць усіх казахаў у назарбахаў». «Як наконт таго, каб перайменаваць краіну Казахстан у Назарбаеў?» Так весела рэагавалі ў інтэрнэце на нечаканае з'яўленне горада Нур-Султан.

Перайменаваць Астану ў Нур-Султан прапанаваў 20 сакавіка 2019-га пераемнік Назарбаева Касым-Жамарт Такаеў. «Мы павінны зрабіць усё магчымае, каб увекавечыць імя нашага вялікага сучасніка Нурсултана Назарбаева», — звярнуўся ён да парламенту — і той аднагалосна падтрымаў ініцыятыву.

Па слядах галасавання стартавала інфармацыйная апрацоўка насельніцтва. У падтрымку перайменавання выступілі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, лідары моладзевых арганізацый, чэмпіёны ў розных відах спорту і нават лаўрэаткі конкурсаў прыгажосці. «Я лічу, што перайменаванне — гэта прызнанне трыццацігадовай працы нашага першага лідара», — заявіла прэсе, напрыклад, Міс Астана.

Натуральна, у самых жыхароў сталіцы не пыталіся. Магчыма, стаўка рабілася на тое, што Астана і раней неаднаразова мяняла назву. Перад тым, як стаць Астаной, горад насіў назвы Акмалінск, Цэлінаград, Акмала. І кожны раз грамадства ўспрымала тапанімічную рэформу дастаткова абыякава.

Аднак цяпер з перайменаваннем у Нур-Султан так проста не атрымалася. Адны пабачылі тут праяву культу асобы Елбасы. Іншых шакаваў градус падхалімажу на адрас гаранта. Для многіх перайменаванне наклалася на шок, калі яны зразумелі, што Назарбаеў не адмовіўся ад улады, а зрабіў сябе вечным старшынёй Савета бяспекі. Нарэшце, для некаторых «Нур-Султан» выглядаў як дэманстратыўны здзек з народу, думку якога не спыталі. «Што я адчула, калі перайменавалі? Спусташэнне. Мяне злавала, што дзяржканалы яшчэ да перайменавання сталі называць сталіцу Нур-Султанам, жахліва раздражнялі людзі ва ўрадзе, якія ўсе як адзін пачалі называць Астану імем былога прэзідэнта», — узгадвае свае эмоцыі ў дзень, калі Такаеў агучыў ідэю пра Нур-Султан, адна з мясцовых журналістак.

Аспрэчыць перайменаванне намагаліся спачатку праз суд, паколькі Такаеў на той момант яшчэ фармальна не быў паўнавартасным прэзідэнтам і, адпаведна, не мог выступаць з прэзідэнцкімі прапановамі. Зрэшты, і гэтую, і іншыя скаргі адхіліў Канстытуцыйны савет і Мінюст.

Частка насельніцтва пратэставала супраць перайменавання ды стварыла анлайн-петыцыі. Адбыліся несанкцыянаваныя акцыі пратэсту, падчас якіх паліцыя затрымала некалькі дзясяткаў чалавек. Дарэчы, чыноўнікі сваімі рукамі зрабілі пляцоўку для пратэсту, калі арганізавалі канцэрты за Нур-Султан па ўсёй краіне. Над натоўпам гледачоў час ад часу ўздымаліся плакаты «Нур-Султан — не мая сталіца», якія выпадкова траплялі ў камеры мясцовага тэлебачання.

**Нават частка казахскай эліты разумее абсурд з перайменаваннем. Прынамсі, мэрыя сталіцы заспакоіла жыхароў гораду, паабяцаўшы, што іх па-ранейшаму будуць называць «астанчане»**

Насуперак таму, што перайменаванне год таму ўсё ж адбылося, барацьба за Астану дасюль застаецца ў палітычнай павестцы краіны. У апазіцыйных медыя прынцыпова ўжываюць выключна старую версію назвы горада. Паводле словаў рэдактаркі аднаго з такіх СМІ, «гэта байкот з боку рэдакцыі, які абвешчаны глупству і дыктатуры». Некаторыя медыя, якія нават не ангажаваныя з апазіцыяй, таксама намагаюцца па магчымасці ігнараваць слова «Нур-Султан». Як правіла, замест выкарыстоўваецца эрзац «сталіца Казахстана». Праўда, гэта не тычыцца цытатаў з афіцыйных паведамленняў.

Такое ўражанне, што нават частка казахскай эліты разумее ўвесь абсурд з перайменаваннем у Нур-Султан. Прынамсі, мэрыя сталіцы яшчэ год таму заспакоіла жыхароў гораду, паабяцаўшы, што іх па-ранейшаму будуць называць «астанчане». «Гэта (астанчане) ужо ўстойлівы тэрмін», — растлумачыў бургамістр.

Відавочна, для тутэйшых ужыванне слова «Астана» стала нейкім інструментам падтрымання лакальнай ідэнтычнасці. «Сама я заўсёды называю сталіцу Астаной і адчуваю падтрымку людзям, якія робяць, як я. Калі калі-небудзь сталіцы вернуць ранейшую назву, буду толькі радая», — кажа адна з астанчанак у апытанцы выдання.

Ці магчыма вярнуць старую назву?

Трэба прызнаць, што новая версія назвы сталіцы, гледзячы па апублікаваных у СМІ апытаннях, ужо не выклікае такога негатыву, як год таму. Гэта не здзіўляе — з улікам таго, што на вуліцы крызіс, тапанімічная тэма стала не такая актуальная, як апошні абвал мясцовага «зайчыка». Ёсць і тыя, хто свядома прымае новую назву, кажучы, што «Нур-Султан» быў непазбежным. Значна раней за Такаева іншыя чыноўнікі прапаноўвалі рэбрэндынг назвы сталіцы ў гонар Елбасы.

Так ці інакш, відавочна, што пакуль новая назва цалкам не прыжылася. Таму нельга выключаць, асабліва ў сілу цяперашняй татальнай нестабільнасці, чарговай мадыфікацыі назвы горада на беразе Ішыма.

# Напярэдадзе праварадыкальная хваля?

Алег НОВІКАЎ

**Калі для большасці людзей каронавірус — гэта трагедыя, то для правых радыкалаў — унікальная магчымасць прыходу да ўлады.**



Фота www.bobr.by

Маштабы трагедыі, што здарылася з-за пандэміі каронавірусу, за акіянам у абсалютнай большасці ўжо выклікаюць шок. Прычым больш за 430 тысяч хворых і 14 тысяч нябожчыкаў, паводле таго ж Трампа, — далёка не мяжа. А вось мясцовая праварадыкальная сцэна бачыць у эпідэміі пралог для рэалізацыі сваіх праграм. У гэтым асяроддзі назіраецца актывізацыя ў выглядзе рэкрутынгу новых актывістаў і падрыхтоўкі да радыкальных акцый.

У якасці прыкладу прэса ўзгадвае арганізацыю Southern Poverty Law Center (SPLC), якая прагназуе хуткі паралюш урадавых органаў праз нездольнасць спыніць эпідэмію. Поўная дэградацыя інстытутаў, паводле матэрыялаў арганізацыі, хуткім часам дазволіць экстрэмісцкім групоўкам нарэшце заявіць пра сябе. Перш за ўсё, праз атакі на ключавыя ведамствы федэральных структур, базы NATO і іншыя аб'екты ваеннай інфраструктуры. Пасля, мяркуючы, можна будзе заняцца непасрэдным стварэннем дзяржавы па лякалах нацыянал-сацыялізму.

Праўда, наконт паралюшу ўлады экстрэмісты паспяшаліся. Інакш бы пра гэтыя праджэкты не даведалася ФБР. У тым ліку сталі вядомыя тактычныя планы неанацыстаў — распальваць недавер да ўраду, прыцягваць новых рэкрутаў, заклікаць тых, хто ўжо падтрымлівае «карычневыя» ідэі, лепш арганізавацца. Усё гэта падпарадкавана агульнай задачы — паскорыць заняпад існуючага грамадства. Адсюль і назва новай дактрыны — acceleration (паскарэнне).

Цікава, што значная роля ў планах правых адводзіцца папулярызацыі сярод людзей апакаліптычнай думкі, што ўсё прапала, надзея на аднаўленне нармальнага жыцця нічога не вартыя, дый наогул папросту наіўныя. «"Амерыка памерла!" — гэта трэба заўжды казаць людзям», — піша адзін з правых мілітантаў. Цяперашні калапс, натуральна, прапануецца трактаваць як лагічны вынік крызісу ўсёй дэмакратычнай дэкадэнцкай мадэлі.

Сярод іншых пунктаў згаданай вышэй метадычкі ёсць і вельмі экзатычны: «Распаўсюджваць вірус перш за ўсё сярод яўрэяў і паліцыянтаў». Прычым, па гэтым пункце радыкалы пачалі працаваць. 24 сакавіка мела месца спроба ўзарваць бомбу ў шпіталі каля Канзас-Сіці. У тым шпіталі знаходзіліся пацыенты, якія захварэлі на Covid-19. Пакуль няма канкрэтнай інфармацыі наконт затрымання арганізатараў правакацыі, хаця нейкія прозвішчы падазраваных агучаныя.

Прыхільнікі іншых неафашысцкіх груповак, наадварот, вырашылі пасіўна назіраць за развіццём крызісу і заставацца на жорсткім каранціне. Яны лічаць залішнім губляць кадравыя рэсурсы на падрыў сістэмы, які сама па сабе хутка дасягне кульмінацыйнай кропкі: «Гэта пандэмія рэальная, яна глабальная, таму падрыхтуйцеся і атрымлівайце асалоду ад шоу».

Розніца робіцца на тое, што на нейкім этапе белыя амерыканцы страцяць доступ да базісных бонусаў былой сістэмы. «Белы чалавек страціць зберажэнні, працу, і нават ежу. Яго хлеб і ўладанні ўжо адменены. Яму ўжо няма чаго губляць. Мірнага статус-кво больш не існуе», — так апісвае гэты сакральны момант адзін з блогераў. Пасля, па логіцы, белыя пачнуць ствараць свае, вольныя ад карпарацый і дэмакратаў, установы.

Дэфіцыт базавых прадуктаў у крамах таксама гальванізаваў рух накшталт праекту Redoubt. Яго правадыры даўно выступаюць за стварэнне нейкіх ізаляваных экалагічных камунаў белых амерыканцаў, якія здольныя забяспечыць сябе. Пры гэтым паніка ў чэргах, плёткі ў інтэрнэце і адсутнасць у адміністрацыі таго ж Трампа канкрэтнай схемы выхаду з крызісу, спрыяюць інтарэсу да такога кшталту «фаланстэраў».

Па гэты бок Атлантыкі, дзе эпідэміялагічная сітуацыя лепшая за амерыканскую, ультраправыя не такія амбіцыйныя. Яны, як правіла, абмяжоўваюцца спробамі займець больш прывабны імідж у вачах бюргераў за кошт рознай філантропіі, накшталт бясплатнай дастаўкі ежы пенсіянерам або перадачы кветак урачам у шпіталі з інфікаванымі. «Трэба стаць героямі паўсядзённага жыцця», — піша адзін з ідэолагаў нямецкіх неанацыстаў. Паводле СМІ, дактары разумеюць, што іх намагаюцца выкарыстаць дзеля палітычнай рэкламы, і часам не прымаюць падарункаў ад палітыкаў, асабліва правых поглядаў.

Яшчэ адна фішка правых радыкалаў — крытыка рэжыму каранціну. Напрыклад, вядомая ісламафобская групоўка PEGIDA з Саксоніі бачыць у рэжыме каранціну намер эліты прымусіць народ маўчаць і не выходзіць на вуліцы на фоне таго, што дзясяткі тысяч мігрантаў прарываюцца з Турцыі праз Грэцыю ў Еўропу. Прычым, еўрапейскія ўрады з нейкім скрыпам, аднак усё ж, быццам, гатовыя даць прытулак шмат каму з тых уцекачоў.

Падводзячы вынікі, можна сцвярджаць, што пакуль планы «ультра» выглядаюць утапічнымі. У тым ліку таму, што ў Злучаных Штатах і ў ЕС дастаткова моцная грамадзянская супольнасць. Прычым, ва ўмовах эпідэміі яна не пасіўная, а, наадварот, вельмі рашуча патрабуе прагрэсіўных рэформаў. Напрыклад, настойвае на гарантаваным мінімальным даходзе для кожнага або пашырэнні фінансавання сацыяльных і медыцынскіх праграм ды асуджае намеры ўладаў абмяжаваць грамадзянскія свабоды.

З іншага боку, сапраўды, цяжка ўзгадаць, калі апошні раз вулічныя правыя радыкалы на Захадзе ўсур'ёз стваралі канкрэтныя планы наконт захопу ўлады.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ігар Дадон



Прэзідэнт Малдовы падтрымаў моду на перагляд электаральных працэдураў ва ўмовах пандэміі. Чальцы кіруючай кааліцыі ў парламенце Рэспублікі Малдова прапанавалі, каб у кантэксце COVID-19 кіраўнік дзяржавы зноў абіраўся парламентам, а не ўсенародна, як прапісана ў Канстытуцыі. «Звычайная выбарчая кампанія будзе немагчымая на фоне тых бедаў, якія нас чакаюць. У сваю чаргу, інстытут прэзідэнта павінен стаць фактарам стабільнасці, палітычнай раўнавагі і нацыянальнай згоды», — лічаць аўтары ідэі.

Такі сцэнар, відавочна, дапаможа кіруючай кааліцыі, якая мае большасць у парламенце, захаваць Дадона на пасадзе кіраўніка краіны. Тым больш, што ў мінулыя часы ў Малдове менавіта парламент абіраў прэзідэнта.

Натуральна, прапанаваная схема не знайшла падтрымкі ў шэрагах празаходняй апазіцыі, якая ў цяперашніх умовах атрымлівае добры шанец. Спад у эканоміцы (чакаецца да 20 працэнтаў ВУП) і страту рабочых месцаў выбаршчык, хутчэй за ўсё, звяжа з Дадонам. Акрамя таго, у апазіцыі з'явіўся нечаканы саюзнік ў асобе некалькіх дзясяткаў тысяч малдаўскіх гастарбайтэраў з Еўропы, якія вырашылі перасядзець эпідэмію на радзіме. Хутчэй за ўсё, на выбарах яны прагаласуюць за кандыдата ад партыі еўрапейскай арыентацыі.

Такім чынам, апазіцыі трэба проста заблакаваць ініцыятыву наконт абрання прэзідэнта парламентам, каб на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах святкаваць перамогу. Зрэшты, у гэтага плана ёсць адзін дэфект. Ужо летам праз пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў Малдове могуць пачацца масавыя сацыяльныя хваляванні, вынік якіх цяжка прагназаваць.

### Урсула фон дэр Ляен



Нямецкі кансерватыўны палітык, цяперашняя кіраўніца Еўракамісіі, трапіла пад крытыку. Запозненыя і пасіўныя крокі кіраўніцтва ЕС па дапамозе Італіі, якая пакутуе ад эпідэміі, выклікалі на Апенінах нянавісць да ЕС і Германіі.

Даходзіць да арыгінальных ініцыятыў увесці ў будучыні (пасля заканчэння эпідэміі) асобны падатак на нямецкіх турыстаў. За кошт гэтага пры наведванні італьянскіх музеяў і рэстаранаў турысты з ФРГ будуць плаціць па больш высокаму прэйскуранту.

Хаця ўсё гэта выглядае часам смешна, палітолагі бачаць тут рост еўрафобіі, якая можа мець палітычныя наступствы. «Грамадская думка ў Італіі ніколі не была такой антыеўрапейскай, як сёння. Не толькі кансерватыўныя і правыя партыі крытыкуюць ЕС, але і выбаршчыкі, якія прагаласавалі за левыя праеўрапейскія партыі», — прызнаюць у кіраўніцтве Partito Democratico — вядучай левай і праеўрапейскай сілы ў Італіі. І дапускаюць выхад Італіі з ЕС, што, па-сутнасці, будзе азначаць крах усяго еўрапраекту.

З іншага боку, ЕС і Германія яшчэ маюць шанец рэабілітавацца ў вачах італьянцаў, калі пагодзяцца на выпуск так званых «каронабондаў» — агульнаеўрапейскіх аблігацый для выратавання фінансавых сістэмаў краін-ахвяраў вірусу. У сваю чаргу, ФРГ пакуль згоды не дае, баючыся, што ёй давядзецца накіроўваць шмат бюджэтных грошай на абслугоўванне гэтага сумеснага доўгу.

### Рэджэп Таіп Эрдаган



Прэзідэнт Турцыі, аматар амбіцыйнай канцэпцыі неаасманізму — вяртання ўплыву Анкары на тэрыторыях былой Асманскай імперыі (Паўночная Афрыка і Блізкі Усход), гледзячы па ўсім, вось-вось адмовіцца ад сваіх напалеонаўскіх планаў.

Прычына — эканамічныя пагрозы, выкліканыя эпідэміяй. Найперш, Турцыя будзе вымушаная паступова сысці з Лівіі, дзе яе вайскоўцы і падкантрольныя фарміраванні наймітаў дапамагаюць аднаму з удзельнікаў лакальнай грамадзянскай вайны. Дзякуючы турэцкай дапамозе мясцовы саюзнік Анкары дамогся нейкіх поспехаў і цяпер вядзе баі за сталіцу Трыпалі.

Між тым, усё больш інфармацыі, што турэцкая эканоміка не вытрымлівае нагрузкі ва ўмовах эпідэміі. З'явіліся звесткі, што турэцкае камандаванне стала затрымліваць заробкі сваім лівійскім наймітам, а нейкі праваабарончы цэнтр прыводзіць словы жаўнераў, якія расчараваныя ўмовамі працы. Туркі, згодна з гэтай інфармацыяй, заплацілі толькі за адзін месяц кампаніі.

Дадзеныя, прадстаўленыя ў часопісе Economist, паказваюць, што Турцыя ў стрэсавым сцэнары мае вельмі нізкі баланс паміж аб'ёмам валютных рэзерваў і патрэбамі ў знешнім фінансаванні. Гэта ставіць пытанні не толькі для ўнутранай, але і для знешняй палітыкі Анкары.

# Залезці ў галаву Сталіна



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**З 1924 года ў Мінску працавала Генеральнае консульства Польшчы. Установа размяшчалася ў двухпавярховым будынку (былым гатэлі), амаль у цэнтры горада па вуліцы Савецкай, 84. Там, пад прыкрыццём дыпламатычнай недатыкальнасці, былі і супрацоўнікі Другога аддзела Галоўнага штаба Войска Польскага (выведкі). Гэтыя людзі збіралі інфармацыю пра ваенна-палітычную сітуацыю і грамадскае жыццё савецкай Беларусі.**

### Адсачыць манеўры РСЧА

Польская дыпмісія займала другі паверх будынку: там былі дзесяць пакояў, кухня, прыбіральня і ванная. На першым паверсе знаходзіліся прыватныя кватэры. У 1931 годзе польскім дыпламатам дазволілі заняць частку першага паверху. Уладам Другой Рэчы Паспалітай давялося плаціць за арэнду 6 тысяч рублёў на год (у 1928 годзе).

У перыяд з 1927 па 1930 гады ў Генконсульстве Польшчы працавала выведвальная «пляцоўка» «U-6», якой кіраваў ротмістр Гжэгаж Даліва-Дабравольскі (псеўданім «Юзаф»). Галоўнай мэтай яе дзейнасці быў збор і аналіз перыядычнага друку БССР. У 1928 годзе «U-6» атрымала заданненазіраць за ваеннымі аб'ектамі, вывучаць месцы дыслакацыі падраздзяленняў РСЧА, складаць падрабязныя мапы дарожных камунікацый. Паездкі па тэрыторыі Савецкай Беларусі дыпламаты абгрунтоўвалі арганізацыяй нагляду за польскімі пахаваннямі. Варта адзначыць, што ў 1920-я на тэрыторыі БССР была эксгумаваная і вывезеная ў Польшчу значная колькасць парэшткаў польскіх жаўнераў, якія загінулі ў баях супраць бальшавікоў у 1919–1920 гадах. Да таго ж на Радзіму вярталіся парэшткі і цывільных асобаў. Таму польскім дыпламатам сапраўды даводзілася шмат ездзіць па розных абласцях БССР. Пры гэтым дыпслужбоўцы карысталіся цягнікамі і легкавым аўтамабілем.

Найбольш важным заданнем для «U-6» быў збор інфармацыі пра манеўры Чырвонай Арміі пад Бабруйскам у 1929 годзе. У іх удзельнічалі войскі Беларускай, Маскоўскай, Ленінградскай, Украінскай і Паўночна-Каўказскай ваенных акругаў. Тады савецкае войска ўпершыню маштабна выкарыстала танкі і авіяцыю.

Гэты выведвальны орган знаходзіўся на сувязі з Экспазітурай польскай выведкі №1 у Вільні.

### Агент за 15 баксаў

Са жніўня 1931 года па красавік 1935 года ў Мінску працавала выведвальная «пляцоўка» «В-17». Яе супрацоўнікі павінны былі вывучыць тылавыя раёны дыслакацыі РСЧА ў Беларускай ваеннай акрузе, а таксама аналізаваць розныя аспекты сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцця Савецкай Беларусі. Нарэшце, агенты «В-17» павінны былі збіраць і адпраўляць у Варшаву ўзоры савецкай паперы, канвертаў, запалак, жаночага і мужчынскага адзення. Кіраваў гэтай «пляцоўкай» ваенны пілот, капітан Багдан Ялавецкі, карыстаўся псеўданімамі «Юліюш Ведых» і «Марцэлі Маліноўскі». Афіцыйна ён быў віцэ-консулам Польшчы (1931–1932 гады), а потым і консулам у сталіцы БССР.

У склад «В-17» уваходзілі «пляцоўкі» «U-15», «F-16», «М-31». Першая была створаная ў сакавіку 1932 года для вывучэння дыслакацыі падраздзяленняў РСЧА ў памежных з Польшчай раёнах. Рэзідэнтуры «F-16», «М-31» засяроджваліся на вывучэнні савецкага перыядычнага друку і падрыхтоўцы аналітычных матэрыялаў. Сувязь «В-17» з рэзідэнтурай ажыццяўлялася пры дапамозе саветнікаў польскага МЗС. «Пляцоўка» пад кіраўніцтвам Ялавецкага трымала кантакт з калегамі ў Ленінградзе, Маскве і іншых гарадах СССР. За перыяд сваёй дзейнасці «В-17» атрымала на выдаткі 940 долараў ЗША і каля 13 тысяч польскіх злотых. На вярбоўку агентаў з ліку мясцовых жыхароў супрацоўнікі польскай рэзідэнтуры ў Мінску атрымлівалі па 15 долараў у месяц. У склад гэтай выведвальнай групы акрамя кіраўніка Ялавецкага ўваходзілі Ян Карш (шафёр), Мацей Мадэйскі, Матэвуш Маховіч.

### Схованкі ў Парку Чалюскінцаў

Агентам адной «пляцоўкі» забаранялася кантактаваць з калегамі з іншай. Іх справаздачы перадаваліся кіраўніцтву і з дыпламатычнай поштай дасылаліся «на вялікую зямлю». Польская выведка ў Мінску карысталася схованкамі для перадачы інфармацыі, якія назваліся «паштовымі скрынямі».

У чэрвені 1936 года кіраўнік выведкі КАП, дыпламаваны маёр Тадэвуш Скіндэр атрымаў паведамленне ад супрацоўніка аддзела «W» (Усход) Другога аддзела Генштаба Войска Польскага (Двуйкі) паручніка Яна Ур'яша.

Там пісалася: «Паштовая скрыня знаходзіцца на паўночна-ўсходняй ускраіне горада Мінск у "Парку культуры і адпачынку" (Чалюскінцаў)... Парк знаходзіцца ў месцы, дзе пачынаецца шаша Мінск–Барысаў, якая з'яўляецца працягам вуліцы Савецкай (галоўнай вуліцы горада). Даехаць да парку з цэнтра горада можна з дапамогай трамваяў №№ 1, 3, 5, 7. [...] Дэталёвае апісанне: пасля ўваходу ў парк трэба павярнуць налева і ісці ўздоўж плота каля 20 метраў. Трэба дайсці да канца парку, дзе плот ідзе ў правы бок. Павярнуць направа і ісці ўздоўж плота, там дарога ператвараецца ў лясную сцежку. У адлегласці па 150 метраў будзе першы тэлеграфны слуп, які стаіць за плотам, у полі. Ідзем далей, [...] бачым слуп, а сцежка раздвойваецца. На 14 крокаў ад плота і двух крокаў ад развілкі знаходзіцца сасновы пень вышынёй у 25 сантыметраў, амаль цалкам струхнелы. У гэтым пні з паўночна-ўсходняга боку ёсць дзірка каля 20 сантыметраў. У яе можна ўлезці далонню. Менавіта гэта і ёсць «паштовая скрыня» № 1. Карыстацца ёй вельмі зручна. Можна легчы на траву побач (знаходжанне на траве дазволенае і гэтым карыстаюцца ўсе, хто адпачывае ў парку). [...] Улічваючы, што ў святочныя дні ў парку шмат людзей, раю не карыстацца паштовай скрыняй № 1 у гэты час. Найлепшым часам з'яўляецца час, калі заходзіць сонца...».



Падчас манеўраў у Бабруйску, 1929 год

Праз месяц той жа Ур'яш інфармаваў начальніка выведкі КАП, што ў «Парку культуры і адпачынку» створаная «другая паштовая скрыня», якая знаходзілася ў... мужчынскай прыбіральні, дзе было тры кабінкі. У першай з іх, у бэльцы над уваходам, польскім выведнікам прапанавалася пакідаць матэрыялы і паведамленні. «У прыбіральні досыць брудна і вельмі кепскі пах, таму людзі там надоўга не затрымліваюцца. Карыстанне ёю бясплатнае і не выклікае вялікай увагі з боку людзей у парку. Наколькі першая «паштовая скрыня» падыходзіць да выкарыстання ў будныя дні, настолькі скрыняй № 2 лепей карыстацца ў выходныя дні», — паведамляў Ур'яш.

### Пошук надзейных людзей

З красавіка 1935 года ў Мінску працавала «пляцоўка» «Е-13», якую ўзначальваў супрацоўнік польскага консульства Станіслаў Наўроцкі (псеўданім «Марыян Макавецкі»). Тады польскія выведнікі звярнулі вялікую ўвагу на працу савецкіх партыйных і дзяржаўных органаў. «Е-13» актыўна вярбавала інфарматараў з ліку жыхароў БССР. «У дадатку дасылаю прозвішчы сямі асоб, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі. Гэта палякі, якіх асабіста ведае наш інфарматар. Яны надзейныя людзі. [...] Яны былі абраныя з думкай, каб пляцоўка мела людзей, якім можна давяраць і якіх можна выкарыстаць для выведвальнай працы.[...] Усе абраныя асобы лічаць, што польскія ўлады дапамогуць ім выехаць у Польшчу. Гэтыя людзі знаходзяцца ў больш-менш цяжкіх матэрыяльных умовах. Нарэшце, усе яны маюць у Польшчы сем'і. Гэтыя моманты, а асабліва два апошнія, павінны выкарыстоўвацца агентамі пры наладжванні кантактаў з імі», — адзначалася ў дакуменце польскай выведкі.

Апошняй польскай выведвальнай пляцоўкай у Мінску была «L-19», якая дзейнічала ў перыяд з 1935 па 1938 гады. На яе чале стаяў Уладзіслаў Вольскі (псеўданім «Мацей Манкевіч»). Польскія выведнікі цікавіліся дыслакацыяй РСЧА ў Беларусі, памежнымі ўмацаваннямі (у прыватнасці, Мінскім умацаваным раёнам), чыгуначным камунікацыямі.

У 1936 годзе на тэрыторыю БССР прыехаў агент выведкі КАП Жыгімонт Гурскі. Афіцыйна ён працаваў практыкантам у консульстве, але на самай справе ён збіраў інфармацыю пра савецкае войска. У 1938 годзе ў будынку Генконсульства Польшчы ў Мінску была змантаваная спецыяльная падслухоўваючая станцыя «Х».

### Караючы меч пралетарыяту

АДПУ-НКУС, зразумела, змагалася супраць польскіх выведнікаў. Чэкісты сачылі амаль за кожным супрацоўнікам польскай дыпустановы. Калі дыпламат выходзіў з будынку консульства, за ім ішло «знешняе назіранне». Як паведамляў у 1935 годзе Станіслаў Наўроцкі, «савецкія агенты хадзілі за дыпламатамі не ў адлегласці ў 10–15 метраў, як было раней, а літаральна адразу за імі». Насупраць будынку консульства знаходзілася чэкісцкая «канспіратыўная кватэра», з якой адбывалася назіранне за «польскім домам». Там пастаянна былі чатыры чалавекі. Калі яны бачылі, што нехта выходзіць з консульства, адразу інфармавалі сваіх калег.

«Колькасць агентаў, якія праводзяць назіранне за консульствам, ад 7 да 9 чалавек. У асноўным мужчыны. Кожныя тры месяцы ў групе змяняюцца людзі. Змена адбываецца на працягу 2–3 тыдняў. [...] Звычайна за адной асобай ходзіць адзін агент, часта адзін за двума. Агент амаль заўсёды ідзе па супрацьлеглым баку вуліцы. Пры сустрэчы з тым, за кім назірае, пачынае доўга выціраць нос хусткай, каб яго твар не быў бачны, ці рэзка збочвае», — адзначалася ў адной са справаздач з Мінска.

Каб абмежаваць выезды польскіх дыпламатаў на аўто, савецкія ўлады ўвялі ліміты на паліва. У другой палове 1930-х НКУС нават правакаваў аварыі з удзелам машын замежных дыпламатаў, даючы ім зразумець, што яны «лезуць, куды не трэба». Напрыклад, у кастрычніку 1937 года на 23-м кіламетры дарогі Кіеў–Адэса грузавік пратараніў машыну польскага консульства, якая спрабавала абагнаць «палутарку». Легкавік, у якім ехалі саветнік польскага консульства Яцкоўскі і чыноўнік Міхалоўскі, быў цалкам разбіты.

Правакацыі ў дачыненні да польскіх дыпламатаў здараліся і на савецка-польскай мяжы. У снежні ўсё таго ж 1937-га да памежнікаў КАП звярнуўся супрацоўнік польскага консульства ў Манчжурыі Анджэй Павежа, у якога савецкія ўлады на памежнай станцыі Негарэлае рэквізавалі кур'ерскі ліст са спісам дыпламатычнай пошты.

Бальшавіцкім спецыяльным органам атрымалася арыштаваць і шэраг інфарматараў «U-6». Праз некалькі гадоў НКУС трапіла на след «В-17». Падчас сталінскіх рэпрэсій у 1937–1938 годзе ў рукі НКУС трапілі і інфарматары польскай выведкі. Напрыклад, у жніўні 1937 года ў Мінску была арыштавана савецкая грамадзянка Ганна Апознанская. 14 кастрычніка 1937 года Камісія НКУС СССР і Пракуратура СССР асудзіла жанчыну як агента польскай выведкі да вышэйшай меры пакарання, і 26 кастрычніка яе расстралялі.

У пачатку верасня 1939 года выведка КАП і консульствы ў Кіеве і Мінску адсочвалі актыўнасць Саветаў «на польскім кірунку». Ад агентаў з БССР і УССР прыходзіла інфармацыя пра канцэнтрацыю савецкіх войскаў на мяжы з Польшчай (паведамленні пачалі прыходзіць 7–8 верасня 1939 года). Аднак польскае кіраўніцтва ўспрымала гэта як «адказ на вайну, што адбываецца на тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай».

Пасля 17 верасня 1939 года польскае консульства ў Мінску было атакаванае «мясцовымі працоўнымі масамі». Дыпламатам на чале з консулам Вітальдам Аконьскім дазволілі выехаць з Мінску. У сакавіку 1940 года на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б) Б было вырашана перадаць будынак, які раней займала польскае консульства, Народнаму камісарыяту ўнутраных спраў БССР.

**Фота з уласнага архіва аўтара**




Пасля перамогі ў Брэсце над чэмпіёнам, мясцовым «Дынама», гульцы мазырскай «Славіі» дзякуюць свайму адзінаму фанату, які прыехаў падтрымаць каманду ў гасцявым матчы.

Фота Fcbate

ма барысаўскі БАТЭ — унізе турнірнай табліцы. Увогуле, першынство атрымліваецца па інтрызе і цікавых матчах проста супер! Заўзятарам пашанцавала і на яркія сюжэты матчаў, і на прыгожыя галы.

А самай улюбёнай камандай замежнікаў стаў «Слуцк». З'явілася нават дастаткова масавая сусветная фан-супольнасць гэтай нашай каманды. Паспрыяла назва. Па-англійску Slutsk сугучна са sluts (у прыстойным перакладзе — дзяўчыны лёгкіх паводзінаў, блудніцы). Дарэчы, слуцкі клуб перажывае цяпер складаныя фінансавыя часы і для выратавання абвясціў краўндфандынгавую кампанію.

выданню Krone Zeitung заявіў: «Гэта быў цяжкі ўдар, калі мы даведаліся, што ліга стартуе. Быў шок. Але мы нічога не можам змяніць. Прэзідэнт Беларусі заявіў, што каранавірус — псіхоз, яму падабаецца гуляць у біг-боса. На шчасце, людзі не ўспрымаюць гэтыя заявы ўсур'ёз». Прэс-службе сваёй каманды ён затым сказаў: «Мае словы не толькі сказілі, але і былі дададзеныя рэплікі, якія я не выказваў. Мы, канечне, маем пэўнае хваляванне наконт сітуацыі, але шокавым стан не назавеш дакладна... А выказванне пра маё стаўленне да словаў кіраўніка Беларусі папросту выдуманае журналістам.

# Футбол падчас каронавіруса: беларускі фурор

Павел КІРЫЛАЎ

**Беларусь па-ранейшаму застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе не спынілі чэмпіянат краіны па футболе. А ў свеце гэта яшчэ Нікарагуа, Бурундзі і Таджыкістан. Усё. Таварыскія футбольныя матчы яшчэ праходзяць у Швецыі. Як у спартовым свеце ўспрымаюць наш футбол падчас каронавіруснай пандэміі?**

Галоўны вынік: пра нашу краіну яшчэ больш даведаліся ў свеце. Мы адначасова і забаўляем свет, і здзіўляем яго. Што праўда, па-рознаму: нехта шакавальна круціць указальным пальцам ля скроні, а хтосьці захоплена падымае ўгару вялікі палец.

Многія краіны купілі правы на тэлетрансляцыі матчаў чэмпіянату Беларусі. Асаблівую цікавасць і рэзананс турнір выклікаў у суседзяў-расіян. Нейкі тамтэйшы каментатар сказаў, што аматары футболу глядзяць гульні чэмпіянату Беларусі нібы алкаголікі, якія, калі заканчваюцца прыстойныя напоі, пачынаюць піць абы-што.

Фанабэрліва выказаўся ганаровы прэзідэнт Расійскага футбольнага саюза Вячаслаў Каласкоў: «Гэта нейкая парнаграфія, лухта. Ні гледачоў, ні майстэрства, нічога няма. А мы на цэнтральным тэлебачанні паказваем гэтую лухту!» Адзін з лепшых футбалістаў у гісторыі Беларусі Аляксандр Глеб у інтэрв'ю расійскаму «Спорт-Экспрэсу» адказаў, што «парнаграфія — гэта ўсё-такі перабор», бо і БАТЭ шумеў у Еўропе, выйграючы ў грандаў, дый наш чэмпіянат толькі пачынаецца.

Ад вядомага беларускага футбольнага агента Валерыя Ісаева дасталася і Глебу, і Каласкову. «Саша, ты тут нарадзіўся, пачынаў, працягваў кар'еру! — звярнуўся ён да Глеба.— Нахабны расійскі чыноўнік, які падвіс у СССР, наўпрост зневажае тваю радзіму, твой чэмпіянат! І ўсяго толькі "перабор"?». Што да расійскага спартовага функцыянера, то, па словах Ісаева, хай той пакажа ў расійскім чэмпіянаце каманду, якая б, не мяняючы схему гульні, у меншасці, выпускала б на замену гульца атакі: «Калі футбол гэтых хлопцаў — парнаграфія, то гульня большасці багацейшых камандаў Расійскай прафесійнай лігі — вычварэнства».

Футбольны агент меў на ўвазе гульню апошняга тура чэмпіянату Беларусі паміж «Мінскам» і «Энергетыкам-БДУ», у якой апошнія выйгралі нягледзячы на выдаленне з лікам 2:0. Прычым пасля трох тураў «студэнты» сенсацыйна набралі максімальныя 9 пунктаў і сталі аднаасобным лідарам чэмпіянату! Тры фаварыты — мінскае і брэсцкае «Дынама», а таксама барысаўскі БАТЭ — унізе... 

З разлікам у тым ліку на дапамогу сваіх новаспечаных заўзятараў па ўсім свеце.

Непрадказальныя гульні першых трох тураў чэмпіянату Беларусі — адзінага ў Еўропе, што не пайшоў на каранцін, — даспадобы і гульцам на спартовых стаўках, і букмекерскім канторам. Яны таксама пацярпелі праз COVID-19. Прычым на безрыб'і букмекеры прапануюць прадказваць на грошы вынікі матчаў нават аматарскай футбольнай лігі Беларусі.

Што да футбалістаў, якія гуляюць у чэмпіянаце Беларусі, то яны не надта радыя быць такім выключэннем у Еўропе, але мусяць выходзіць на поле. Некалькі разоў дазвалялі сабе рэзкія выказванні ў інтэрв'ю замежнай прэсе легіянеры, але пасля ў каментарах прэс-службам сваіх клубаў казалі, што іх словы журналісты перадалі не зусім карэктна.

Напрыклад, нападнік салігорскага «Шахцёра» Дарка Бодул у інтэрв'ю аўстрыйскаму выданню Krone Zeitung...

Я сказаў, што не чытаю па-руску і таму не ведаю, што казаў Аляксандр Лукашэнка наконт каронавіруса, але перакананы, што кіраўніцтва краіны зробіць усё, каб абараніць народ».

Што тычыцца заўзятараў, то па выніках апытання чытачоў газеты «Прэсбол» 48 працэнтаў выказаліся за спыненне чэмпіянату, астатнія ж выступілі за яго працяг ці ў звычайным рэжыме, ці без гледачоў на трыбунах. Як бы тое ні было, на стадыёнах фанатаў заўважна паменела. У трэцім туры, які прайшоў у мінулыя выхадныя, сярэдняя наведвальнасць была ў 10 разоў меншай, чымсьці на матчах трэцяга туру мінулагодняга чэмпіянату. Між тым, уж 8 красавіка адбудуцца наступныя гульні. Гэта два паўфінальныя матчы Кубку Беларусі паміж брэсцкім «Дынама» і салігорскім «Шахцёрам», а таксама паміж мазырскай «Славіяй» і барысаўскім БАТЭ. І зноў у спартовай афішы свету, а таксама, адпаведна, у навінах гэта будуць матчы дня!

# БагатаДата

**У гэтыя дні адбылася падзея, якая вызначыла шлях Беларусі да дыктатуры. А таксама нарадзіўся чалавек, прозвішча якога ведаюць усе першакласнікі. Што гэта было і хто гэта быў — у нашым аглядзе.**

## 11 красавіка

**1965.** У Мінску нарадзіўся кампазітар і прадзюсар Алег Молчан. Удзельнік гурта «Песняры». Сярод іншага, ён — аўтар музыкі папулярнай песні «Малітва» на словы Янкі Купалы.

## 12 красавіка

**Вялікдзень** паводле календара каталіцкай канфесіі. **Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі. Дзень войскаў супрацьпаветранай абароны Беларусі.**

**1890.** У мястэчку Шчорсы Навагрудскага раёна на Гродзеншчыне нарадзіўся літаратар, эканаміст і грамадскі дзеяч Янка Нёманскі. Сапраўднае імя — Іван Пятровіч. Разам з Цішкам Гартным выдаваў газету «Дзянніца». Працаваў намеснікам старшыні Дзяржплану БССР і дырэктарам Інстытута эканомікі Акадэміі навук. Арыштаваны ў 1937 годзе і расстраляны.

**1995.** Уначы ў зале Вярхоўнага Савета спецслужбамі былі збітыя дэпутаты апазіцыі Беларускага народнага фронту, якія напярэдадні абвясцілі галадоўку супраць правядзення ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму.

## 13 красавіка

**Сусветны дзень рок-н-ролу.**

**1975.** Ва ўкраінскім Дняпры (у той час Днепрапятроўску) нарадзілася фігурыстка Тацяна Наўка. Пасля распаду СССР у 1990-х гадах выступала за зборную Беларусі па фігурным катанні ў пары з некалькімі партнёрамі. Але прызавых месцаў тады на Алімпіядзе і чэмпіянаце свету не было. Затым выступала за Расію, і некалькі гадоў перамагала на розных міжнародных спаборніцтвах. У 2006 годзе разам з Раманам Кастамаравым перамагла на Алімпійскіх гульнях у Турыне.

## 14 красавіка

**1880.** У Слуцку з'явіўся на свет грамадскі і культурны дзеяч Язэп Дыла. Сярод займаных ім пасадаў — дырэктар БДТ-1 (цяпер — Купалаўскі тэатр), старшыня Беларускага цэнтральнага саюза спажывецкіх таварыстваў.

**1885.** У вёсцы Максімаўка Маладзечанскага раёна нарадзіўся грамадска-палітычны дзеяч, аўтар музыкі раманса «Зорка Венера» на верш Максіма Багдановіча Сымон Рак-Міхайлоўскі. Уваходзіў у прэзідыум Першага Усебеларускага з'езда ў 1917 годзе ў Мінску, быў дырэктарам Мінскіх першых беларускіх настаўніцкіх курсаў, створаных Сакратарыятам асветы БНР. Абіраўся паслом Сейма Польскай Рэспублікі. Знявольваўся польскімі ўладамі, а затым, пасля пераезду ў 1930 годзе ў Мінск, — савецкімі. Да арышту працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музею, быў сябрам ЦВК БССР. У 1934 годзе як «арганізатар і кіраўнік контррэвалюцыйнай арганізацыі» прыгавораны да расстрэлу, які быў заменены на 10 гадоў лагераў. У 1938-м як «агент польскага генштаба» зноў асуджаны да расстрэлу, які быў выкананы.

**1920.** У вёсцы Страшава на Беласточчыне нарадзіўся пісьменнік, дысідэнт Аляксей Карпюк. Вязень канцлагера, камандзір партызанскага атрада. Жыў у Гродне. Загадваў там агенцтвам «Інтурыст», кіраваў Рэспубліканскім музеем атэізму і гісторыі рэлігіі. У 1960–1970-х гадах мінулага стагоддзя вакол Карпюка, які падтрымліваў сувязі з літаратармі-дысідэнтамі па ўсім СССР, склаўся нефармальны клуб інтэлігентаў-вольнадумцаў. Да яго належаў і Васіль Быкаў, чым лепшым сябрам быў Карпюк. Вядомыя творы Аляксея Карпюка: «Данута», «Вершалінскі рай».

## 15 красавіка

**Сусветны дзень культуры,** а таксама **Дзень экалагічных ведаў.**

**2005.** Вярхоўны Суд Беларусі задаволіў пазоў Міністэрства юстыцыі аб закрыцці НІСЭПІ — Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў. Яму давялося перарэгістроўвацца ў Літве.

## 16 красавіка

**1935.** У вёсцы Данейкі Баранавіцкага раёна на Брэстчыне нарадзіўся пісьменнік і літаратуразнаўца Анатоль Клышка. Адзін з арганізатараў Таварыства беларускай мовы. Аўтар «Буквара» (1969 год, больш за два дзясяткі выданняў), «Прапісаў да «Буквара», «Прапісаў для 1 класа». Напісаў некалькі кніжак для дзяцей. Пераклаў на беларускую мову «Новы запавет». Аўтар «Беларуска-польскага размоўніка».

## 17 красавіка

1940. У Мінску нарадзіўся кінарэжысёр і сцэнарыст Валерый Рубінчык. Яго фільмы: «Дзікае паляванне караля Стаха», «Апошняе лета дзяцінства», «Кіно пра кіно». Як акцёр зняўся ў фільме «Прыгоды Тома Соера і Гекльберы Фіна».

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# «Тут не танчаць бугі-вугі»

Алег НОВІКАЎ

**Працягваем падарожжа па старонках флагмана беларускай савецкай сатыры. Гэтым разам узгадваем, як «Вожык» змагаўся са стылягамі — моладзевай субкультурай у СССР канца 1940-х — пачатку 1960-х гадоў.**



Пойдзем адсюль, тут бугі-вугі не танцуюць.

Малюнак М. Гурло.

Часопіс «Вожык» быў індыкатарам сацыяльных працэсаў у савецкай Беларусі. Гарадская тэматыка дамінавала ў выданні толькі з 1970-х гадоў — у часы, калі распачалася другая хваля індустрыялізацыі і наш край стаў пераважна ўрбаністычным.

Адпаведна, раней у часопісе больш увагі надавалася праблемам вёскі. У тым ліку «Вожык» бязлітасна змагаўся з тымі маладымі сялянамі, якія ігнаравалі пасяўныя і ўборачныя, п'янствавалі, кралі з калгасных складаў, ставілі асабістыя інтарэсы вышэй за грамадскія і партыйныя задачы.

Што тычыцца гарадской моладзі, то прыблізна да сярэдзіны 1950-х гадоў «Вожык» цікавіўся ёй рэдка. Хіба што час ад часу ад яго аўтараў даставалася хуліганам.



— Давайце гуляць у хованкі. Вы будзеце хуліганамі, а я міліцыянерам і я ад вас буду хавацца.

Мал. А. Волкава.

Пастаральныя матывы панавалі ў «Вожыку», пакуль у Маскве не абвясцілі крыжовы паход супраць касмапалітаў — аматараў Захаду, пад каток якога таксама трапілі і маладыя людзі, якія цікавіліся джазам і іншымі імпартнымі культурнымі фішкамі. У 1949-м на старонках маскоўскага «Крокодила» выйшаў артыкул «Типы уходящего века», што стаў маніфестам вайны са стылягамі, кульмінацыя якой прыйшлася на 1950-я гады.

Паступова давялося падключацца да той кампаніі і Мінску. У кастрычніцкім нумары «Вожыка» за 1955 год упершыню ў якасці антысацыяльнага элемента быў выяўлены тыпаж, падобны да стылягі.

Апроч іншага, гэта азначала, што Мінск выйшаў з алгарытму жыцця горада, які залізвае раны вайны. Беларуская сталіца пачынала жыць у рытме вялікага горада з адпаведнай паліфаніяй спажывецкіх забабонаў яго жыхароў.



Тонкашэрсны мужчына

*«Был на конкурсе я джазов,*
*обалдел от джазов сразу.*
*Буги-вуги, самба-мамба,*
*чувствую, приходит амба».*

Прыкладна так гучалі на савецкім радыё куплеты супраць стылягаў. А ў «Вожыка» былі свае метады барацьбы з «плесенню» (так у афіцыёзе часта называлі стылягаў). Ён крыў некаструктыўную моладзь вершамі і карыкатурамі.



**Белая ВАРОНА**

З год, як пайшоў Гарасім з дому.
Дзе быў і што рабіў ён — невядома.
Але, нарэшце, зноў вярнуўся ў вёску,
Ды толькі не пазнаць яго. Прычоску
Зрабіў накшталт ільвінай грывы!
Касцюм стыляжы дзесь пашыў ён:
Пінжак падвойнай шырыні
І вузкія зялёныя штаны.
Падэшва тоўстая на модных чаравіках.
І вусы змейкай невялікай
Віюцца па яго губе.
А гальштук жа прыдбаў сабе,
Як папугая апярэнне!
Ды гэта паўбяды, што ён змяніў адзенне —
Характар свой змяніў Гарасім:
Людзей не пазнае ў калгасе,
Ідзе па вуліцы, задраўшы нос,
І нават з сябрамі, з якімі рос,
Не прывітаецца ён добрым словам.
А што датычыцца размовы —
Незразумелы лексікон.
Ён пераблытаў з роднай мовай
«Ад'ю»... «О'кэй»... «Гутбай»... «Пардон»...

———

Бывае так:
Хватне «вярхоў» такі дзівак,
Ды марыць, быццам ён вучоны,
І ходзіць белаю воранай.

**Мікола КАРАЛЁЎ.**

Кульмінацыя барацьбы са стылягамі ў «Вожыку» прыйшлася на 1958 год. Адначасова яго аўтары спрабавалі агітаваць за нейкі альтэрнатыўны пазітыўны лад жыцця. Згодна з ім, малады беларус павінен добра працаваць, а ў вольны ад працоўных дасягненняў час замест розных бугі-вугі скакаць у рытме народных танцаў. Аднак хутка ад такіх пошукаў адмовіліся. Стала зразумела, што патрэбная свая эстрада.



Яны ганарыліся:

моднымі танцамі...

модным адзеннем...

і цюлікамі...

А ёю ганарыцца ўвесь завод

Мал. В. Швяцова.

Мяркуючы па карыкатурах, усе, хто не хацеў весці савецкі лад жыцця ў 1950-я гады, паступова так ці інакш запазычвалі фішкі стылягаў. На малюнку 1959 года дармаед носіць т. зв. «боты на маннай кашы» — тыповы атрыбут гардэробу стыляг.



— Мамачка, карміла ты мяне да вусоў, пракармі ўжо і да барады, а там і пенсія.

Стылягі ў СССР пачалі паступова знікаць пасля Маскоўскага сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у 1957-м. Акрамя таго, дзякуючы Гагарыну і дэсталінізацыі Захад ахапіла хваля сімпатый да СССР, уласцівая таксама моладзевым субкультурам (напрыклад, амерыканскім бітнікам).

Да пачатку рок-рэвалюцыі і эры хіпі (прыкладна 1964–1967) тэма варожай Саветам юнацкай контркультуры ў «Вожыку» амаль знікла.



У нас ёсць і такія «штатныя добраахвотнікі», якія хутка адгукаюцца на заклікі партыі, атрымліваюць пад'ёмныя, а потым на тыя ж пад'ёмныя вяртаюцца назад.

(З газет)

— Пакуль не запыліліся, павернем аглоблі.

Малюнак М. Гурло.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №608

Падпісана да друку 10.04.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.